

# Год сёлетні

Закончыўся 1956 год. Гэта быў год гераічнай працы і небывалага размаху гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Пад кіраўніцтвам партыі працоўныя нашай краіны дабіліся новых вялікіх поспехаў. Было асвоена 35,5 мільёна гектараў цаліны. Дзяржаве здадзена больш 3,3 мільярда пудоў хлеба. Павялічыўся збор бавоўны. За выдатныя поспехі ў асваенні цалінных зямель, за павелічэнне ўраджайнасці палёў ордэнамі Леніна ўзнагароджаны рад саюзных рэспублік, краёў і абласцей. Урадавымі ўзнагародамі адзначаны каля 100 тысяч перадавікоў сельскай гаспадаркі.

Далёка наперад пайшла жывёлагадоўля. Надой малака за год вырас на 32 працэнты. У 1956 годзе ў калгасах адкормлена каля 9 мільёнаў свіней.

Поспехі відавочныя. Кожны савецкі чалавек ганарыцца імі. Але працаўнікам сацыялістычных палёў прадстаіць зрабіць нямала і ў сёлетнім годзе. У студзені Цэнтральны Камітэт КПСС і Савет Міністраў СССР звярнуліся з пісьмом да ўсіх работнікаў сельскай гаспадаркі, у якім ставяць шэраг канкрэтных задач.

Добра было-б дадаткова асвоіць 4—5 мільёнаў га новых зямель. Калгаснікі, спецыялісты сельскай гаспадаркі ў гэтым годзе будуць змагацца за павелічэнне ўраджайнасці, за тое, каб кожная карова давала больш малака, кожная свіння — больш мяса, а авечкі — больш воўны. Для гэтага важна добра ўгнойваць глебу, добра ведаць агратэхніку. А хіба можна надаіць многа малака, калі ў кожным калгасе не будзе дастаткова нарыхтавана сіласу?

Разам з партыяй і ўсім народам новыя задачы будзе рашаць і савецкая моладзь.

Нядаўна ў Мінску праходзіла рэспубліканская нарада маладых жывёлаводаў. Даяркі, свінаркі, маладыя спецыялісты, якія прысутнічалі на нарадзе, абавязаліся ў сёлетнім годзе працаваць яшчэ лепш.

На здымку: удзельніцы рэспубліканскай нарады маладых жывёлаводаў (злева направа) свінарка калгаса «Чырвоная Армія» Віцебскага раёна Зіна Вайцікоўская, даярка соўгаса «Свіслач» Гродзенскай вобласці Ірына Баламут і даярка соўгаса «Цішкова» Магілёўскай вобласці Марыя Ціпанкова.

Фото С. Чырэшкіна.

---

На першай старонцы вокладкі: **Выхаванка новага дзіцячага дома мастацкага выхавання Тася Сташкова за падрыхтоўкай хатняга ўрока ігры на арфе.**

На чацвёртай старонцы вокладкі: **Байдарка.** (Малюнак да бясплатнага дадатку).



## 1918 ГОДА НАРАДЖЭННЯ

39 год назад у баях з іншаземнымі захопнікамі нарадзілася Савецкая Армія. Гэта былі дні, калі маладая Савецкая Рэспубліка вымушана была адстойваць заваёвы рабочага класа ад пасяганняў міжнароднага імперыялізма. Кайзераўскія войскі, адчуваючы падтрымку англійскіх, французскіх і амерыканскіх імперыялістаў, рашылі задушыць першую ў свеце сацыялістычную дзяржаву. Яныірваліся да легендарнага горада рэвалюцыі — Петраграда. І тады армія рабочых і сялян спыніла лютага ворага.

Не раз пасля гэтага Савецкая Армія выконвала сваю ганаровую місію, выратоўвала працоўных ад кабалы, якую ім рыхтаваў міжнародны імперыялізм.

І ніколі Савецкая Армія не запляміла сваіх баявых сцягаў ганебнай справай захопу або закабалення народаў. Місія Савецкай Арміі заўсёды была, ёсць і застаецца вызваленчай.

Народы свету ніколі не забудуць, як Савецкая Армія вызваліла з фашысцкай няволі мільёны людзей Еўропы. Яны добра ведаюць, што намаганнямі савецкіх салдат быў разгромлены японскі мілітарызм. Усе сумленныя людзі свету ведаюць, што калі-б не было такой магутнай, чыстай, з высокімі чалавечнымі ідэаламі арміі, якой з'яўляецца Савецкая Армія, дык імперыялісты даўно развязалі-б трэцюю сусветную вайну.

Мы ганарымся сваёй роднай Савецкай Арміяй. Яна наша надзейная ахова ад усякіх нечаканасцей, ад пагроз і прамых нападак міжнароднай рэакцыі.

Савецкая Армія, як ніколі, моцная, як ніколі, любімая, а яе салдаты, афіцэры, генералы пільна стаяць на варце родных рубяжоў, на варце заваёў Вялікага Кастрычніка.

На здымку: Савецкія артылерысты на вучэнні.

Фото С. Чырэшкіна.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск.

Год выдання V.

Люты.

№ 2(47).

1957.



# НА ВАРЦЕ МІРНАГА НЕБА

Узвілася ракета. Пракаціўся гул матораў. І вось імгнення на ўзлётна-пасадачную дарожку вырулілі прыгожыя срабрыстыя рэактыўныя знішчальнікі.

— Узлёт дазваляю, — гучыць у шлемафонах лётчыкаў голас кіраўніка палётамі.

Зноў пачуўся роўны і моцны гул, машыны крануліся з месца, лёгка і амаль непрыкметна адарваліся ад зямлі і раптоўна ўзвіліся ў паветра, нібы стрэлы, пушчаныя з гіганцкага лука (фото ўверсе). Пачаўся вучэбны дзень Н-скага падраздзялення. Лётчыкі, якім даверыла Радзіма ахову паветраных прастораў нашай Айчыны, упарта ўдасканальваюць сваё майстэрства, вучацца лётаць на вялікіх вышынях, робяць і ўдзень і ўначы перахваты паветраных мішэняў, вядуць па іх трапны, знішчальны агонь.

Вось атрыманы звесткі аб з'яўленні самалётаў «праціўніка». На камандным пункце неадкладна робяцца разлікі, а лётчык першага класа капітан Мачалаў займае сваё месца ў кабіне знішчальніка.

— Надвор'е добрае, — гаворыць ён пасля агляду чыстага, блакітнага неба (фото справа).

Ён уважліва і хутка кантралюе складаныя прыборы. Надвор'е ў Беларусі зменлівае. Нярэдка чыстае без хмурынкі неба раптам пакрываецца хмарамі, сонца шчыльна закрываюць аблокі. Здарылася так і на гэты раз. Толькі падняўся ён у паветра і не паспеў адляцець ад аэрадрома, як трапіў у воблачнасць. Не было відаць ні сонца, ні зямлі, вакол ляжала адна толькі малочна-белая імгла.

— Управа трыццаць градусаў! — перадае з зямлі па радыё чарговую каманду штурман.

Давяраючы ва ўсім разумным прыборам, капітан Мачалаў энергічна робіць віраж і ляціць дакладна па курсу.

— Уперадзе цэль! — гучыць у шлемафонах.

Лётчык павялічвае хуткасць. Вось і «праціўнік».

— Цэль бачу, атакую, — дакладвае лётчык.

Задача выканана. Паветраны «праціўнік» перахоплены і атакаваны. Гэта вынікі не толькі выдатнага майстэрства лётчыка Мачалава, гэта вынік баявой падрыхтоўкі і штурмана-наводчыка, і ўсяго разліку каманднага пункта, вынік выдатнай работы матэрыяльнай часткі.

Добрая слава ідзе ў падраздзяленні аб выдатным механіку па радыё комсамольцу Нікалаю Емельянчыку. Нездарма ён узнагароджан Ганаровай граматай ЦК ЛКСМ Беларусі.

Такой-жа славай і павагай карыстаецца і майстар паветранага бою, першакласны лётчык комуніст Кулакоў. Ён бездакорна пілатыруе знішчальнік на самых вялікіх вышынях і ў любое надвор'е, выдатна атакуе паветраныя мішэні, заўсёды без промаху вядзе агонь. Вось і сёння яго палёт быў, як заўсёды, вельмі ўдалы. «Праціўнік» манеўраваў, усяляк імкнуўся ўцячы ад «ворага», але Кулакоў паспяхова і не адзін раз атакаваў яго. Аб тым, як прайшоў гэты павучальны «бой», Кулакоў расказвае сваім баявым сябрам (фото ўнізе).

Лётчыкі-знішчальнікі, як і ўсе воіны Совецкай Арміі, чуйна ахоўваюць мірнае, стваральнае жыццё нашай Радзімы, пільна стаяць на варце мірнага совецкага неба.

Тэкст і фото В. МАЖАРАВА.



Лётчык першага класа капітан Мачалаў.





Майстар паветранага бою лётчык першага класа Кулакоў расказвае баявым таварышам пра паветраны бой.



Малады паэт **Уладзімір Паўлаў** нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Замошша на Случчыне ў сям'і калгасніка. У 1954 годзе ён скончыў сярэднюю школу, потым некаторы час працаваў літработнікам рэдакцыі Любанскай раённай газеты «Кліч Радзімы». Цяпер Ул. Паўлаў служыць у Савецкай Арміі.

Вершы яго друкаваліся ў Любанскай і Слуцкай раённых газетах, у «Піянеры Беларусі» і «Чырвонай змене».

Ніжэй мы змяшчаем новыя вершы маладога паэта.

Ул. ПАЎЛАЎ

# ВЕРШЫ

## Я сэрца аб песню дзяўчыны параніў

Я сэрца аб песню дзяўчыны параніў
Нязгойнаю ранай без шрамавых метак,
Зусім не тады, калі бег на спатканне,
Праз плот пераскочыўшы з выгнутых жэрдак.

Не ў момант прызнання, як мара салодкі
І ў думках хлапечых не раз пеставаны.
Дарма гаварылі мае аднагодкі,
Што быў у сястру я тваю закаханы.

Сустрэўшыся ў школьным з табой калідоры,
Ад сораму быў як пялёстак я макаў,
І ад нечаканага цяжкага гора
Пасля, захаваўшыся ў садзе, я плакаў.

Я сэрца параніў не ў тую хвіліну,
Пагнутыя жэрдкі калі пераскокваў.
Я толькі дзяцінства за плотам тым кінуў,
Юнацтва сустрэць каб праз некальні крокаў.

## Грымяць турбіны

У марознай тугой абводцы
Перад раніцай месяц згас.
Ды мы ўсе маладыя хлопцы
І гарачыя сэрцы ў нас.

І нічога, што снег іскрысты
Нібы вугаль сухі рыпіць
І ў паветры халодным, чыстым
Нават птушка не праляціць.

Нам на зборы даны хвіліны.
І ў наступны кароткі міг
На стаянцы грымяць турбіны,
Аж балюча ад свісту іх.

І са старту, дзе лес сінее,
Самалёты ідуць на ўзлёт.
На зямлі чэрствы снег бялее
Ды курыць падагрэты лёд.

Ён курыць не таму — хто знае, —
Што такі на дварэ ўжо час,
А таму, што мы ўвысь ўзлятаем,
Што гарачыя сэрцы ў нас.

## Пасля адбою

Мяцеліца, як ваўчыца,
Збіраючы зграі, вые
І распытляваным снегам
Са стрэхаў ляціць пад адхон.
Мой край пад сваю ахову
Пастамі ўзялі вартавыя,
Забыўшы да самай змены
Пра моцны, салодкі сон.

А я сёння вольны ноччу
Ад сутачнага нараду.
На аэрадроме нашым —
Рады баявых машын.
Сур'ёзна аднак лічу я
З боку свайго за здраду
З адбоем заснуць адразу
Раней трыццаці хвілін.

Ахвота крыху паслухаць,
Шкрабе як па вокнах замяць,
Як хвоі ў бары галосяць
Па цёплым з дажджамі лету.
Ды мне, як патроны з дыска,
Радкі дасылае памяць,
І іх запісаць павінен
Я ў поўгадзіну гэту.

## Ты на золку мяне разбудзіць шкадавала

Яшчэ ўчора за вокнамі восень шугала,
А сягоння рыпіць мяккім снегам зіма.
Ты на золку мяне разбудзіць шкадавала
І за статкам выходзіла ў поле сама.

Хлапчуку сніўся Паўка ў тачанцы крылатай
І найлепшыя мары здзяйсняліся ў сне.
Удалі ад бацькоўскае роднае хаты
Хіба можна забыцца пра ўсё гэта мне?

Пакуль змена на варце яшчэ не настала,
Я ўсе гукі і шорахі прагна лаўлю.
З-за мяне не адную ты ноч недаспала,
А цяпер, мама, я за цябе недасплю.

## На сцэне

Здавалася, што мора кліча нас,
Грыміць прыбой і коцяць хвалі пену.
І мы, за рукі ўзяўшыся, не раз
Да гледачоў выходзілі на сцэну.

Нам гаварылі позіркі сяброў,
Вялікі зал, сціхаючы паволі,
Тугі букет шурпатых васількоў,
Што намі ўдала выканаы ролі.

Што нашай дружбе чорная бяда
Шыпшынавы вянок свой не надзене...
Ды як мне, аднакласніца, шкада,
Што тое ўсё было толькі на сцэне.

# БЕЛАРУСКІЯ СТАНКІ

Нашы беларускія станкі можна сустрэць на прадпрыемствах Індыі і Афганістана, у народным Кітаі і Бірме, у Венгерскай Народнай Рэспубліцы, у шматлікіх гарадах нашай неабсяжнай Радзімы.

Прац‌яжныя поўаўтаматы, гідракапіравальныя супарты, заточныя і гідрафікаваныя даўбёжныя, шліфавальныя і стругальныя станкі — вось няпоўны пералік прадукцыі, якая выпрабляецца на станкабудаўнічых заводах Мінска, Віцебска, Гомеля, Оршы.

Кожны новы станок — гэта вынік творчых пошукаў, смелых дзярзанняў канструктараў, садружнасці інжынерна-тэхнічных работнікаў з рабочымі-наватарамі вытворчасці, стараннай працы станкабудаўнікоў.

На Мінскім станкабудаўнічым заводзе імя Кірава група канструктараў на чале з Алегам Жылінскім за кароткі час стварыла шэраг арыгінальных высокапрадукцыйных станкоў.

Найбольшай творчай удачай гэтага маладога дружнага калектыву з'яўляецца стварэнне спецыяльнага гарызантальна-працяжнага станка мадэлі МП-17.

У тэхнічным заданні было сказана коратка: «Стварыць малагабарытны, лёгкі, высокапрадукцыйны поўаўтамат для няспыннага працягвання з такім разлікам, каб яго можна было ўключыць у аўтаматычную лінію».

За гэтую работу ўзяліся камсамольцы Алег Жылінскі і Яўгені Гладкі. Справа ўскладнялася яшчэ і тым, што працяжныя станкі падобных мадэлей выпускаюцца толькі ў Мінску, і таму пачэрпнуць што-небудзь з вопыту другіх станкабудаўнічых прадпрыемстваў амаль не ўдалося.

І ўсё-ж задача была вырашана паспяхова. На дапамогу моладзі прыйшлі старэйшыя таварышы—галоўны канструктар Талака, намеснік галоўнага канструктара Шпакоўскі, майстры і рабочыя-наватары. Змяншэння вагі ў сваёй канструкцыі Жылінскі і Гладкі дабіліся таму, што замест літых поўнасцю прымянілі зварныя канструкцыі.

У новым станку прымянёна перыядычная змазка. Яна праводзіцца аўтаматычна, без удзелу рабочага. Арыгінальна вырашана і такое пытанне, як замена інструменту. Раней для таго, каб замяніць працяжку, рабочы спыняў станок, падымаў крышку, доўга корпаўся ў механізме. Дарэмна траціласа многа каштоўнага часу. Цяпер-жа гэтая аперацыя праводзіцца без зняцця крышкі.

Станкі мадэлі МП-17 паспяхова працуюць на Падольскім заводзе швейных машын і зарэкамендавалі сябе выдатна — яны лёгкія і высокапрадукцыйныя.

Добра зарэкамендаваў сябе спецыяльны станок мадэлі МП-25, спраектаваны і выраблены па заказу Маскоўскага аўтазавода імя Ліхачова, для апрацоўкі блокаў цыліндраў рухавіка. Такія станкі і раней выпрабляліся на мінскім станкабудаўнічым заводзе. Перад канструктарамі была пастаўлена задача — спраектаваць такі станок, каб у ім поўнасцю былі аўтаматызаваны ўсе аперацыі, увесь рабочы цыкл. Гэтага ўдалося дасягнуць. Апрача таго, у новым станку значна спрошчаны заціскны механізм.

Нядаўна група канструктараў, якую ўзначальвае Алег Жылінскі, атрымала новае заданне — распрацаваць праекты працяжных станкоў для апрацоўкі блокаў цыліндраў самага магутнага ў нашай краіне 250-сільнага трактара і дэталей аўтамабіля «Волга».

На Гомельскім станкабудаўнічым заводзе імя Кірава ў першым годзе шостай пяцігодкі асвоена 9 тыпаў новых станкоў. Сярод іх — група спецыяльных станкоў для аўтаматычнай лініі па выпрабу біметалічных утулак. На такіх станках можна апрацоўваць трубы даўжынёй да 7 метраў.

На здымку: новыя станкі, зробленыя на Гомельскім заводзе імя Кірава для аўтаматычнай лініі.

Я. ДУБРОВІН.









# АПАВЯДАННІ ПРА ЗАСЛОНАВА

Георгі ШЧАРБАТАЎ

Мал. Г. Паплаўскага.

## Закінуты кацёл

Дэпоўскі слесар Жэня Коржань канчаткова зненавідзеў Заслонава. З нямецкім шэфам па дэпо паважна ішоў новы начальнік рускіх паравозных брыгад і неяк асабліва пільна прыглядаўся да кожнага рабочага, нешта гаварыў і махаў рукамі. «Выслужваецца, нягоднік,—з агідай падумаў юнак. — Як чалавек можа змяніцца!» І Жэня ўспомніў, як яшчэ год назад ён прыйшоў да Заслонава прасіцца на работу. Ласкава, неяк па-бацькоўску сустрэў тады начальнік дэпо Жэню. Ён нібы і цяпер адчувае цёплы і прыязны позірк чорных вачэй Канстанціна Сяргеевіча. Зразумеў тады жэніну душу Заслонаў, зразумеў, што без чыгункі не можа жыць юнак, у якога ўсё дзяцінства звязана з ёю. Паслаў ён Жэню ў дэпо вучыцца на слесара, а праз два месяцы яму прысвоілі трэці разрад. Праз шэсць месяцаў Жэня здаў пробу на чацвёрты разрад. Ён заўсёды быў вельмі ўдзячны Канстанціну Сяргеевічу.

А цяпер... Заслонаў падыйшоў да коржаневага станка. Юнак нахмурыўся і ўрупіўся ў працу.

— Коржань, што робіш? — спытаў Заслонаў.

— Хіба не бачыце?

— Калі начальнік пытае, трэба адказваць па ўсёй форме, — рэзка сказаў Заслонаў і ўзяў утулку, якую рабіў Коржань.

Павярцеў яе ў руках і незадаволена скрывіўся.

— Лепш трэба шліфаваць. Разбэсціліся...

Жэня паглядзеў на Заслонава, але той пайшоў да другога рабочага і не мог бачыць, якой спапяляючай нянавісцю быў напоўнены жэняў позірк.

Пасля работы Жэня сустрэўся з качагарам Цімам Дакутовічам. Крыху ніжэйшы ростам, каржакаваты, з круглаватым тварам, на якім задзірыста тырчэў кірпаты носік, гэты Ціма быў вясёлы і знаходлівы хлопец. Не адзін дэпоўскі юнак марыў аб дружбе з ім. У Жэні Коржаня была даўняя дружба з Цімам: некалі яны разам вучыліся ў школе, былі ў піонерах, а потым уступілі ў комсамол, пасля сямігодкі амаль адначасова пайшлі працаваць у дэпо.

Убачыўшы свайго дружбака невясёлым, Ціма запытаў:

— Чаго такі кіслы?

— Не дасць нам жыцця новы начальнік.

— Заслонаў?

— А то хто-ж...

— Та-ак, — прагаварыў Ціма. — Трэба нешта прыдумаць.

— А што тут думаць, — загарачыўся Жэня.— Здрадніку адна рада: ключом па галаве ды ў канаву.

— Трэба падумаць,—паўтарыў Дакутовіч.— Праверыць чалавека трэба.

— Ну, думай, думай,—з іроніяй прамовіў Жэня,—а ён дапамагае немцам Маскву заняць.

Лютыя марозы скавалі зямлю. Здавалася, абледзянела ўсё жывое. Уночы немцы, што ехалі па дарогах, шукалі якога-небудзь прытулку. Шафёры звычайна кідалі аўтамашыны проста на дарозе і хаваліся ў хатах.

Аднойчы Заслонаў вяртаўся з працы ўночы. Усцяж па шашы, што вяла на Оршу, стаялі грузавыя аўтамашыны, прыкрытыя брызентам. «Відаць, з боепрыпасамі», — падумаў Заслонаў. Каля машын нікога не было. Заслонаў толькі паспеў кінуць на дарогу некалькі металічных якаркоў, як раптам пачуў паміж машынамі нейкі шум. Ён прытуліўся да бярозы і агледзеўся. Каля адной з машын завіхаліся тры постаці. Яны паспешліва здымалі з кузава скрыні. Канстанцін Сяргеевіч напружыў зрок і пазнаў высокую постаць Жэні Коржаня і крыху ніжэйшую Цімы Дакутовіча. Трэцяга юнака ён не ведаў.

«Малайцы!» — падумаў Заслонаў і, каб не спалохаць юнакоў, азірнуўся, пастаяў яшчэ крыху, пакуль хлопцы не зніклі са скрынямі недзе на дварах, потым шпарка пайшоў далей. Ад сваіх людзей Заслонаў ужо ведаў, што ў дэпо дзейнічае падпольная комсамольская група, і здагадваўся, хто яе ўзначальвае. Ведаў ён і тое, што комсамольцы сабралі ўжо нямала зброі. «Гэта добра, — думаў Заслонаў.— Але трэба, каб моладзь дыверсіямі занялася». І ён вырашыў пагаварыць з комсамольцамі.

Назаўтра, застаўшыся адзін-на-адзін з Дакутовічам, Заслонаў нечакана для юнака сказаў:

— Вельмі неасцярожна працуеце. Гэтай ноччу вас, як курэй, маглі пералавіць.

— Я нічога не ведаю,—спрабаваў спакойна гаварыць Дакутовіч.

Тады Заслонаў падыйшоў зусім блізка да хлопца і, гледзячы проста яму ў вочы, ціха, але цвёрда і даверліва сказаў:

— Ціма, я ніколі нічога не гавару непатрэбнага. Збяры ў нядзелю сваіх хлопцаў.

І па тым, як гэта было сказана, па выразу твару гэтага загадкавага чалавека Дакутовіч зразумеў: Заслонаў наш! У хлопца неяк аж затрымцела сэрца, і ён сказаў:

— Будзе зроблена, таварыш Заслонаў.

У нядзелю ўвечары ў доме Тамашэвічаў граў патэфон, нехта запяваў песні, той-сёй танцаваў. Былі ўсе знаёмыя: Ціма Дакутовіч, Жэня Коржань, памочнік машыніста Вася Прыгода, сёстры Зіна і Ніна Кунавы, тры браты Назаравы. Беленькая Зіна Кунава не адставала ад Цімы, раз-по-разу запрашаючы яго на танцы. Жэня Коржань выбіраў пласцінкі, доўга круця-

чы іх у руках. Калі ў пакой зайшоў Заслонаў, усе змоўклі, а збянтэжаны Жэня ўпусціў пласцінку. Яна пляснулася на падлогу. Усе пагля-дзелі на Жэню і міжвольна ўсміхнуліся. А Заслонаў спытаў у Дакутовіча:

— Варта пастаўлена?

Ціма вінавата замяўся, і тады Заслонаў строга сказаў:

— Зараз-жа паставіць.

Ён сеў за стол, расшпіліў гузікі кажушка і загаварыў:

— Я прышоў да вас, каб паведаміць радасную навіну: Чырвоная Армія перайшла ў наступленне пад Масквой. Заняты сотні населеных пунктаў і дзесяткі гарадоў. Словам, даюць копаці фашыстам. Вось так іх трэба пляжыць усюды, і тут, у Оршы, таксама. Я ведаю, што многія комсамольцы дэпо ўжо дзейнічаюць. Але пакуль што яны мала робяць шкоды ворагу. Збіраць зброю — добрая справа. Але калі гэтая зброя ляжыць і ніхто з яе не страляе,— ад яе мала карысці. Так, таварышы?—Ён паглядзеў на моладзь і нечакана запытаў:—Дарэчы, дзе вы хаваеце зброю?

— Усюды, — няцвёрда сказаў Ціма,—у зямлю закопваем. У хатах пад падлогаю.

— Вось бачыце, якая неасцярожнасць. Варта немцам каго-небудзь з вас западозрыць, яны абавязкова знойдуць у вас зброю. А хіба гэтага нельга пазбегнуць? Я вам прапаную вось што: за дэпо ля ўваходных пуцей ляжыць закінуты кацёл ФД 20-344. На яго ніхто не звяртае ўвагі. За ноч-дзве перанясіце туды ўсю зброю. Яна будзе перададзена партызанам.

Канстанцін Сяргеевіч расказаў моладзі аб метадах барацьбы з акупантамі. Ён дастаў з кішэні некалькі якаркоў, зробленых з сталёвага дроту так, што як ты іх ні кінь на дарогу, балон машыны будзе абавязкова праколаны. Хлопцы пахавалі якаркі па кішэнях. А Заслонаў ужо вучыў, як рабіць вугальныя брыкеты, як пры дапамозе пяску і вады выводзіць са строю паравозы і аўтамашыны. Аб усім Заслонаў гаварыў з такім веданнем справы, з такім перакананнем, што ў Жэні Коржаня паступова знікла ўсякая непрыязнь да «начальніка рускіх паравозных брыгад». Перад ім зноў быў блізкі і родны дзядзя Косця, і ў юнака ўчапіла на душы і расла гордасць за розум і адвагу гэтага чалавека. Яму хацелася падыйсці і шчыра пацалаваць Канстанціна Сяргеевіча, як бацьку, расказаць яму аб сваіх сумненнях і думках.

Развіталіся па-сяброўску. Заслонаў яшчэ раз напомніў аб канспірацыі і, весела бліснуўшы вачыма, гэтак-жа хутка знік, як і з'явіўся.

Прайшло два тыдні. Над станцыяй гулялі студзеньскія мяцеліцы, вылі і стагналі лютыя ветры. Людзі баяліся выходзіць на вуліцу. Але калі аднойчы Заслонаў заглянуў у кацёл ФД 20-344, то радасна здзівіўся. Там ляжалі нямецкі ручны кулямёт, дванаццаць вінтовак, дзве скрыні патронаў, гранаты, тол. Усё было складзена клапатліва, па-гаспадарску.

У наступную ноч да катла пад'ехалі на санках партызаны.

Заслонаў перадаў Дакутовічу партызанскае дзякуй за зброю і даручыў комсамольцам замініраваць кацёл. Пры гэтым ён растлумачыў:

— Немцы збіраюць на пераплаўку ўсякую жалезную непатрэбшчыну. Відаць, і да катла дабяруцца.

Заслонаў не памыліўся. Праз некалькі дзён Дакутовіч з Коржанем убачылі, як паравоз з платформай пачыхаў да ўваходных пуцей. На платформе стаяла каля двух дзесяткаў немцаў. «Па кацёл»,—здагадаліся хлопцы і таямніча пераглянуліся.

Кацёл ляжаў непадалёк ад пуці. Немцы прыладзілі з бярвенняў перакладзіны да платформы і гуртам ўзяліся яго каціць на платформу. Цяжкая аграмадзіна марудна падавалася ўверх. Немцы падбадзёрвалі адзін аднаго, нешта крычалі і нават лаяліся. Апошняе намаганне — кацёл грымнуўся на платформу, і ў тое-ж імгненне аглушальны выбух страсянуў наваколле. Жалезнымі аскабалкамі прасвісталі ў паветры часткі разарванага катла і платформы. На снезе ляжаў абернуты выбуховай хваляй паравоз. Далёка ад пуці валяліся трупы акупантаў.

Стары непатрэбны кацёл зрабіў сваю справу.

Калі Жэня Коржань, ледзь стрымліваючы захапленне, зайшоў у кантору да Заслонава, каб далажыць аб выкананні задання, Канстанцін Сяргеевіч жвава выйшаў з-за стала і, сказаўшы: «Не трэба, ведаю», абняў юнака, пацалаваў і ўзрушана сказаў:

— Дзякуй ад партыі!

## Аганёк Заслонава

У апошні час Заслонаў жыў на кватэры разам з нямецкім шэфам дэпо, і да яго нельга было заходзіць. Ціма Дакутовіч ніяк не мог выбраць момант, каб адзін-на-адзін пагаварыць з дзядзем Косцем. А параіцца было аб чым. Набліжалася гадавіна Чырвонай Арміі, і комсамольцы-падпольшчыкі ўвесь час прапаноўвалі Ціму ўсё новыя і новыя праекты незвычайных дыверсій. Без згоды Заслонава Дакутовіч не адважваўся на якую-небудзь смелую аперацыю. Комсамольцы-ж настойвалі.

Вярнуўшыся з паездкі ў Смаленск напярэдадні свята, Дакутовіч зайшоў да Заслонава ў дэпо. У канторы, апрача Заслонава, нікога не было. Але спасцярожлівы Дакутовіч пачаў здалёк:

— Канстанцін Сяргеевіч, што рабіць: псуюцца інжэктары ў дарозе.

Заслонаў ссунуў над пераноссем чорныя бровы і рэзка сказаў:

— Што рабіць? Перагравваеце ваду ў тэндэры, а потым пытаецеся, што рабіць. Ніяк вас не навучыш, Дакутовіч.

Ціма вінавата патупаў на месцы. Хутка начальніцкі гнеў улёгся, і тады Ціма пачуў пошэпт дзядзькі Косці:

— Заўтра чакаецца налёт совецкай авіяцыі на наш вузел... — і ён расказаў аб канкрэтным заданні маладым падпольшчыкам.

Вялікая радасць напаўняла душу комсамольца. Ён, нібы на крыллях, вылецеў з канторкі і накіраваўся да Жэні Коржаня. Ідучы па дэпо, Ціма асабліва ўважліва паглядзеў на броне-



Еўдакія ЛОСЬ

### СЯСТРА

Брат загінуў даўно... За другога братоўка
Выйшла замуж, дзяцей нарадзіла другіх...
А сястра ўсё прыходзіць, пагладзіць галоўкі
Ды ўглядаецца ў вочкі нядродныя іх.

Нібы хоча ў чорненькіх тых вачанятах
Адшукаць гэткі мілы і родны блакіт...
Нібы хоча ў ручках, угору паднятых,
Хоць імгненна адчуць ласку братняй рукі.

Брат загінуў даўно; час забыўся суровы.
Не яго, а другога квітнее сям'я...
Дык чаму ты маўчыш, не прамовіш ні слова,
Што не месціцца ў воку слязіна твая?

І журба, і сляза побач з ёю ступаюць,
Покуль цепліцца ў целе хоць кропля крыві...
Я не знаю, чаму пра сясцёр забываюць,
Як гавораць аб моцнай і вернай любві?



паравоз, які стаяў над канавай і праз дзень-два гатоў быў выйсці з рамонту.

Весела прывітаўшыся з Коржанем, Ціма папрасіў яго не затрымлівацца нідзе пасля працы і зайсці да яго. Цёмныя вочы Дакутовіча таямніча паблісквалі. Жэня зразумеў: яго сябра ведае нешта надзвычайнае.

Вечарам, седзячы ў пакоі Дакутовіча, Жэня даведаўся пра гэтую таямніцу. Ціма шэптам расказваў яму аб налёце авіяцыі, аб заданні, атрыманым ад Заслонава. Для таго, каб выканаць гэтае заданне, спатрэбілася-б сама меней пяць чалавек — трэба-ж было падрыхтаваць толавыя зарады, некалькі карбідных ліхтарыкаў.

Пазней, калі да Цімы прыйшло яшчэ некалькі хлопцаў, Дакутовіч размеркаваў абавязкі. Жэню Коржаню выпала мініраваць бронепаравоз, што стаяў у дэпо. Дакутовіч узяў на сябе мініраванне пуці на станцыі. Астатнія павінны былі замаскіраваць карбідныя ліхтарыкі ў пэўных мясцінах вакзала так, каб яны відны былі толькі зверху і паказвалі на цэль.

Дзень дваццаць трэцяга лютага выдаўся яркі, сонечны, з пякучым марозам. Асляпляльна зіхацеў снег. Заслонаў некалькі разоў выходзіў з дэпо і на поўныя грудзі ўдыхаў марознае паветра. У яго быў нейкі ўрачысты настрой. На станцыі не было вады. Вадакачка не працавала, яе яшчэ раней вывела са строю група Заслонава. На пуцях раз-по-разу чулася лаянка машыністаў. Усё больш паравозаў спынялася і замірала на станцыі. Гэта не толькі не зніжала настрою начальніка рускіх паравозных брыгад, а яшчэ больш узнімала яго. «Добра, добра, мёрзніце, пагрэем вас уночы», — смяяўся ў душы дзядзя Косця.

Заслонаў знарок, нібы вецер, уляцеў з вуліцы ў дом і застукаў ботамі па падлозе, адаграваючы ногі, расціраючы шчокі, хукаючы на рукі. Павячэраўшы, ён запрасіў шэфа згуляць у шахматы.

...Апоўначы двое юнакоў у белых кажушках выйшлі на ганак, трохі пастаялі, прыслухоўваючыся. Хутка яны ўлавілі далёкі гул самалётаў, які набліжаўся з усходу. Юнакі пераглянуліся і, шпарка саскочыўшы з прыступак, пайшлі на станцыю. Гэта былі Ціма Дакутовіч і Жэня Коржань. Яны неслі нейкія пакункі. Ужо звінела паветра, здаецца, гатовае вось-вось лопнуць ад натугі.

— Зараз дзяжурныя дэпо дадуць драпака ў бомбасховішча, — шапнуў Жэня.

— Глядзі, будзь асцярожным, — папярэдзіў Ціма.

На тэрыторыі дэпо было ціха і бязлюдна. Дакутовіч убачыў, як пад парай непадалёк ад дэпо стаялі два паравозы. Ён адразу прыняў рашэнне і ўмомант ускочыў у будку машыніста аднаго з іх. У той-жа час нырнуў у дэпо Коржань. Ціма Дакутовіч пусціў паравоз і гэтак-жа маланкава выскачыў з будкі. Паравоз, пыхкаючы і набіраючы хуткасць, паімчаў некуды ў далячынь, шукаючы смерці. Яшчэ скачок — і Дакутовіч у будцы другога паравоза. Тыя-ж звыклыя рухі, паварот рычагоў, і паравоз рушыў з месца.

А ў гэты час Жэня бег па гулкаму і вельмі доўгаму, як яму здалося, памяшканню дэпо. У цемры ён неўзабаве знайшоў бронепаравоз і, ускочыўшы на лесвічку, сунуў толавы зарад у будку. Вяртаючыся назад, ён чуў, як шалёна стралялі нямецкія зеніткі і ад выбухаў бомбаў калыхалася зямля. Чырвонае зарава над эшалонамі, разрывы бензабочак, снарадаў — усё гэта грукала, дзіка скуголіла, свістала і шыпела. Бомбы клаліся проста ў саставы, у дэпо, якбы іх накіроўвала нейкая нябачная рука. А гэтая рука і сапраўды была. Ярка свяціў для лётчыкаў прывітальны аганёк Заслонава, нібы зоркі, гарэлі камсамольскія ліхтарыкі, павешаныя ў розных месцах вузла.

У дыме і тумане ўставала раніца наступнага дня. Дагаралі вагоны з фуражом, дзе-нідзе яшчэ трашчалі аўтаматныя патроны ды раз-по-разу бухалі артылерыйскія снарады.

Моўчкі акідваючы цікаўнымі позіркамі наваколле, ішлі на працу Ціма Дакутовіч і Жэня Коржань. Жахлівы малюнак уяўляла цяпер станцыя. Усюды валяліся абгарэлыя, пакурчаныя рэбры вагонаў, перакуленыя, знявечаныя паравозы, аскепкі нейкіх скрынь, узарваныя рэйкі... Станцыя, якая яшчэ ўчора зіхацела снежнай белізной, сёння была чорнай.

Яшчэ здалёк хлопцы ўбачылі, што частка даху дэпо знесена і ў адной з сцен ззяла велізарная праломіна. Па дэпо снавалі рабочыя, яны спыняліся каля разбітых паравозаў, пры начальстве цяжка ўздыхалі. Дакутовіч і Жэня падыйшлі да групы рабочых, якія стаялі каля бронепаравоза, і прыслухаліся да гутаркі.

— Браткі, і гэтаму перапала,—гаварыў адзін з слесараў.

Жэня глядзеў на вынікі сваёй работы, і прытоеная ўсмешка блукала па твары. З бронепаравоза было вырвана амаль усё нутро, і ён, як мёртвы, цяжка асеў бокам у канаву. «Цяпер не хутка падымешся»,— задаволена падумаў юнак. Падыйшоў яшчэ адзін машыніст і з нейкім захаваным жартам у голасе сказаў:

— Ну і бамбёжка! Гэта-ж трэба... Іду гэта я каля паваротнага круга, гляджу, ляжаць адзін на адным два паравозы... І як яны туды трапілі? Відаць, выбуховай хваляй запёрла...

Рабочыя загадкава паглядзелі на жартаўніка і пачалі разыходзіцца.

А ў гэты час у гестапа нямецкі шэф дэпо браў на парукі інжынера Заслонава, з якім ён у гэтую ноч спачатку гуляў у шахматы, а затым сядзеў у бомбасховішчы.

## Песня пра Тоню Любчанка

Парашут адганяла ветрам убок. Унізе Тоня бачыла сігнальныя партызанскія агні і баялася, што вецер можа далёка аднесці яе ад пасадачнай пляцоўкі. Тоня падцягвала то адну то другую страпу, рэгулюючы спуск, і раз-по-разу паглядала ў чорнае бяздонне, якое чакала яе. Калі дзяўчына ўбачыла пад сабою высокія яліны, новая трывога ахапіла яе: яна можа павіснуць з парашутам на дрэве. Тоня напружыла ўсе сілы і скіравала парашут на вузенькую прагаліну паміж дрэвамі. Дзяўчына мякка асела на зямлю, скінула лямкі і адразу схапілася за аўтамат. Да яе вушэй данёсся нейкі шум. Тоня адпаўзла за яліну і нарыхтавалася да бою. Трэск галля наблізіўся і Тоня крыкнула:

— Стой! Хто ідзе?..

І ў адказ пачула вясёлы хлапечы голас:

— Свае, партызаны. Выходзь!

Усё яшчэ трымаючы аўтамат напагатове, Тоня выйшла на прагаліну і ўбачыла двух хлопцаў з вінтоўкамі. Партызаны горача паціснулі тоніну руку.

— Пайшлі, — сказаў адзін з іх. — Цябе ўжо чакаюць сяброўкі.

У Тоні адлегла на сэрцы. Яна спытала:

— Яны добра прызямліліся?

— Усё ў парадку.

Раніцою пасыльны штаба прывёў групу дзяўчат да зямлянкі камбрыга і загадаў чакаць. Тоня паставіла сяброўак у шарэнгу і, як толькі з'явіўся Заслонаў, выступіла наперад на два крокі і бойка сказала:

— Пасланы з Масквы ў ваша распараджэнне, таварыш камандзір. Падрыўная група пад камандаваннем Тоні Любчанка.

Канстанцін Сяргеевіч не стрымаў усмешкі і, падышоўшы да дзяўчат, сказаў:

— А-а, масквічкі! Ну , прывітанне, прывітанне! Рады вас бачыць на беларускай зямлі.

Ён крытычным вокам агледзеў дзяўчат. Высокая, з прыгожымі вішнёвымі вачыма, стройная у чырвонаармейскім адзенні, Тоня Любчанка вылучалася сярод сваіх сябровак. Па яе гаворцы Заслонаў адразу пазнаў у ёй украінку.

Усе астатнія былі таксама рослыя і акуратныя. На грудзях іх віселі новенькія аўтаматы, за поясам — фінкі ў спецыяльных чахольчыках. Дзяўчаты былі абуты ў кірзавыя боты, спадніцы і гімнасцёркі іх былі колеру хакі. На галовах — пілоткі.

Відаць, дзядзя Косця застаўся задаволены аглядам, бо сказаў:

— Добра, прымаем у атрад. Адпачніце — і за справу.

Назаўтра ўвечары, калі з паходаў вярнуліся ўсе партызаны, Заслонаў загадаў сабрацца на сход. За доўгімі сталамі, дзе звычайна абедалі партызаны, сядзелі і стаялі нахмураныя вусатыя дзядзькі, задумлівыя юнакі і дзяўчаты.

Былі дні найвялікшай напружанасці ў баях на франтах Айчыннай вайны, і кожны ў думках быў разам з сталінградцамі, якія стрымлівалі нечуваны напор фашыстаў.

Заслонаў з гэтага і пачаў. Ён расказаў, як геранчна змагаецца Савецкая Армія з фашыстамі пад Сталінградам, як радзеюць нямецкія дывізіі на берагах вялікай рускай ракі, разбітыя мужнасцю і стойкасцю савецкіх людзей.

Тоня Любчанка глядзела на гэтага невысокага чалавека ў скураной тужурцы і сініх галіфэ і ўсім сэрцам адчувала, якой вялікай сілай волі надзелены ён. Яна бачыла, з якой пільнай увагай слухалі партызаны дзядзю Косцю, як яны ўспрымалі кожнае слова камандзіра. А Заслонаў прадаўжаў:

— Вельмі многа нямецкіх паяздоў стала хадзіць па нашай зямлі. Трэба неадкладна скараціць іх. Тут, у тылу ворага, мы з найменшай затратай сілы можам нанесці вялікую шкоду ворагу. Нам трэба стварыць дзесяткі дыверсійных груп і даваць ворагу копаці, як дае наш Ратнікаў.

Амаль усе партызаны скіравалі позіркі на высокага белабрысага юнака ў казачыне, які, відаць, ад гэтага адчуў сябе няёмка і стараўся схавацца за спіну таварыша. Тым часам Заслонаў расказваў:

— Група Ратнікава ўдала замініравала два пуці адначасова і ў адным і тым-жа месцы. І вось вам вынік. На міны наскочылі адначасова два паязды. Уяўляеце, што адбылося! Паравозы разбіты, дзесяткі вагонаў разбіты. Так і і толькі так мы будзем зрываць расклад руху нямецкіх паяздоў.

У гэты вечар Тоня Любчанка не магла заснуць. Яна параілася з дзяўчатамі і адважылася пайсці да Заслонава.

Дзядзя Косця сядзеў за сталом і нешта пісаў. Ён ветліва сустрэў дзяўчыну, прапанаваў ёй прысесці. Смуглы твар камандзіра быў заклапочаны, і дзяўчына падумала ўжо, што, мабыць, прыйшла не ў час. Але Заслонаў хутка згарнуў паперу і спытаў:

— Што скажаш, Тоня?

— Таварыш камандзір, мы ўжо адпачылі. Дазвольце пайсці на дыверсію.

— На дыверсію? Але-ж вы не ведаеце мясцовасці, — няўпэўнена сказаў Заслонаў. — Вось што. Схадзіце пакуль што з нашымі падрыўнікамі.

З тыдзень дзяўчаты хадзілі «на жалезку» з групай Ратнікава, і той па заданню Заслонава непасрэдна на аперацыі правяраў здольнасці новых падрыўніц.

І вось наступіў дзень самастойнага выхаду на дыверсію групы Тоні Любчанка.

...Прыемна ў летні час крочыць па лесе, удыхаць пах суніц і грыбоў, слухаць лагодны шум дрэў. Пяцёра дзяўчат, відаць, адмералі ўжо немалы шлях, бо Тоня Любчанка час-ад-часу аб'яўляла перапынак. Тады дзяўчаты зусім пасалдацку лажыліся на спіну, выцягвалі ногі. Кроў паступова адлівала з натруджаных ног, і тады дзяўчаты ўставалі і ішлі далей.

Надвячоркам непадалёк ад чыгункі Орша-Віцебск дзяўчаты спыніліся. З ельніку ім быў відаць насып пуці, а праз якой поўгадзіны яны праводзілі поглядам нямецкі цягнік. Тоня Любчанка раздзяліла групу і загадала дзяўчатам прайсціся крыху ўсцяж чыгункі ўлева і ўправа, каб высветліць, дзе лес найбліжэй падступае да дарогі. Неўзабаве партызанкі вярнуліся, і ўся група адразу падалася ўлева.

Калі добра сцямнела, партызанкі ўбачылі, як з ліхтарыкамі ў руках прайшла па чыгунцы група немцаў. Дзяўчаты ведалі, што трэба дачакацца, калі вартавыя пройдуць назад, і тады можна дзейнічаць. Тоня загадала падрыхтаваць зарад, агледзець зброю. У варту яна вылучыла трох дзяўчат, а сама з Шурай Зуёнак падрыхтавалася ісці на чыгунку. Тоня агледзела дэтанатар, фінку, якой трэба было капаць зямлю пад рэйкай, і стала чакаць. У яе душы паступова нарастала хваляванне. «Як справіцца з першым сваім заданнем? А раптам нічога не выйдзе?»

Прайшло больш гадзіны, а немцы ўсё не вярталіся. Нарэшце, Тоня здалёк убачыла агенькі і з палёгкай уздыхнула. Калі вартавыя зніклі, Тоня прашаптала:

— Пайшлі.



## НАШЫ ЮБІЛЯРЫ



Споўнілася па 50 год двум вядомым беларускім пісьменнікам — драматургу Канстанціну Губарэвічу і паэту Алесю Звонаку.

К. Губарэвіч нарадзіўся ў сям'і селяніна на Магілёўшчыне. У 1931 годзе ён скончыў сцэнарнае аддзяленне Маскоўскага кіноінстытута і тады-ж пачаў займацца літаратурнай справай. П'есы К. Губарэвіча «Цэнтральны ход», «Алазанская даліна» (напісана сумесна з І. Дорскім) шырока вядомы нашаму гледачу. Асаблівую вядомасць набыла яго п'еса «Брэсцкая крэпасць», якая паказвае мужнасць і самаадданасць абаронцаў савецкай зямлі ў першы год Вялікай Айчыннай вайны. У лірычнай камедыі «Простая дзяўчына» К. Губарэвіч расказвае аб пасляваенным жыцці беларускага народа.

Алесь Звонак нарадзіўся ў Мінску ў сям'і рабочага. Вучыўся ён у Беларускім дзяржаўным універсітэце і ў Акадэміі мастацтвазнаўства ў Ленінградзе.

Працаваў А. Звонак у Полацкай акруговай газеце «Чырвоная Полаччына», у Акадэміі навук БССР, у рэдакцыях часопіса «Маладняк» і газеты «Літаратура і мастацтва».

Літаратурную дзейнасць паэт пачаў у 1925 годзе. Ім былі выдадзены зборнікі: «Буры ў граніце» (1928 г.), паэма «Загай» (1929 г.), паэма «Каршун» (1930 г.), «На лінію агня» (1931 г.), «Мая Радзіма» (1935 г.). Цяпер у Дзяржаўным выдавецтве БССР выходзіць кніга выбраных твораў паэта.



Яна ўзяла тол, дзяўчаты падрыхтавалі зброю. Прыгнуўшыся да зямлі, яны падыйшлі да самага насыпу і потым асцярожна выпаўзлі на рэйкі. Тоня з Шурай адразу пачалі разграбаць пясок пад рэйкамі. Яшчэ мінута-другая і тол пакладзены ў ямку. Дзе-ж дэтанатар? Тоня забыла, у якую кішэню паклала яго. Нарэшце! Дэтанатар ушчыльную падагнаны пад рэйку, і Тоня першая коціцца з насыпу. Дзяўчаты, задыхаючыся, бягуць да ельніку і там толькі паспяваюць перадыхнуць. А тым часам з раз'езда чуваць гудок паравоза. Дзяўчаты ў чаканні прыселі на кортачкі. Перастук поезда, які ішоў з Оршы, нарастаў. Па цяжкаму пыхценню паравоза, па глухому лязгу колаў дзяўчаты зразумелі, што ідзе цяжка гружаны састаў. Вось ён у дваццаці метрах, вось... вось... І раптам вялізны вогненны слуп паставіў паравоз на дыбы, залязгалі, затрашчалі вагоны, сыпанула дроб патронаў... Партызанкі кінуліся ўглыб лесу.

Першы поспех акрыліў дыверсантак. Цяпер амаль кожную ноч яны ішлі на чыгунку і не вярталіся ў лагер аж датуль, пакуль не ўдавалася «калдыхнуць» фашысцкі эшалон.

Да дзяўчат звычайна прыходзіў Заслонаў і пытаўся:

— Ну як, спадабалася? Не страшна?

Тоня глядзела на сваіх сябровак і гэтак-жа шчыра адказвала:

— Хоць і страшнавата, але цікава. А часам здаецца і вельмі проста. А на фронце-ж бывае цяжэй.

— Правільна, дзяўчаткі, там цяжэй. Глядзіце, як пад Сталінградам нашы трымаюцца! Дзякую за стараннасць...

Бяда здарылася з дзяўчатамі ў канцы жніўня. Як і заўсёды, Тоня Любчанка шпаркай хадою вяла групу да чыгункі Орша — Віцебск. Яна ўжо добра ведала гэтую дарогу, памятала кожную сцяжынку, якая вяла да чыгункі. Ведала яна і аб тым, што ў апошні час немцы пачалі арганізоўваць засады на партызанскіх сцежках, а таму, каб ашукаць іх пільнасць, дзяўчына вырашыла павесці падрыўніц бліжэй да паўстанку. Яна выбрала на карце невялічкі паўстанак Ляснічыя і адвячоркам падыходзіла да пуці. Лясная дарожка нечакана выходзіла на шырокі прасёлачны шлях і не паспела Тоня агледзецца, як раптам пачула:

— Стой! Рукі ўгору!

Дзяўчаты ўпалі на зямлю. Першай пусціла чаргу Тоня Любчанка. За ёй затрашчэлі аўтаматы ўсіх падрыўніц. У той-жа момант над імі засвісталі кулі. Тоня заўважыла, як, хаваючыся за дрэвамі, да іх набліжаліся немцы. Адзін з фашыстаў увесь час крычаў:

— Партызан, здавайся! Партызан, здавайся...

Дзяўчына падпільнавала яго і пусціла чаргу. Фашыст ціха войкнуў і паваліўся на зямлю. Але гітлераўцы не спыняліся. Любчанка раптам пачула тыя-ж пагрозлівыя словы і з другога боку. Яна агледзелася і ўбачыла, што і адтуль падступалі немцы, гатовыя кінуцца на дзяўчат, каб схапіць іх жывымі. Яна крыкнула:

— Гранаты!

Выбухі ірванулі зямлю. Затрашчэла сучча падкошаных дрэў, густа пасыпалася лісце. І момант — страшэнная цішыня. Але толькі момант. Немцы, відаць, адказаўшыся ад думкі захапіць партызанак жывымі, з разлютаванасцю павялі наступленне. Тоня раптам убачыла, як, адкінуўшы неяк ненатуральна галаву, ляжала Шура Зуёнак, як замоўк аўтамат Ніны Васільчанка... У дзяўчыны пахаладзела сэрца. «Канец», — прамільгнула думка. Але тры яе падругі яшчэ мужна вялі бой, і Тоня ім крыкнула:

— Жывымі не здавацца! — У тое-ж імгненне нясцерпны агонь апаліў ёй нагу, затым адразу плячо, і яна страціла прытомнасць.

Дзяўчына апрытомнела ўночы і адразу не зразумела, дзе яна. Была цемра, нехта побач цяжка войкаў. Яна паспрабавала ўстаць, але крыкнула ад болю і зноў села, прыхінуўшыся да нейкай нябачнай сцяны.

Раніцой Тоню Любчанка прывялі ў гестапа. У пакоі за сталом сядзеў фашысцкі палкоўнік, каля яго мітусіўся перакладчык. Палкоўнік зрабіў ветлівую міну і спытаў:

— Паслухай, душка, няўжо табе падабаецца такое непрыгожае жыццё?

— Якое непрыгожае? — не стрымалася Тоня.

— Бандыцкае.

Шырокія тоніны бровы ўздрыгнулі, цёмныя вочы наліліся гнеўным агнём.

— Ты сам бандыт...

— Як цябе сапсавалі, душа мая, — усё яшчэ спакойна прадаўжаў гестапавец. — Я вось палкоўнік, а гавару з табой ветліва, а ты...

Партызанка была двойчы паранена, у яе гарэлі агнём нага і плячо. Але яна стаяла спакойная і нейкая недасягальная. Гордая постаць і мужны позірк вачэй дзяўчыны збівалі з панталыку гестапаўца. Нарэшце ён запытаў:

— Хто цябе пасылаў?

Тоня ўспомніла «дзядзю Косцю» і раптам неяк яшчэ больш падцягнулася. Яна ўявіла, як неаднойчы спакойна, надзвычай спакойна вёў сябе ў гестапа Канстанцін Сяргеевіч, як ён мог стрымліваць сваю нянавісць да гэтых падлюг, і рашыла маўчаць.

Гестапавец павысіў голас і паўтарыў пытанне. Партызанка маўчала. Палкоўнік раззлавана сказаў:

— Ты што, мабыць, жонка галавара, ці агульная ў іх.

Не хапіла ў дзявочых грудзях месца для крыўды. Тоня падыйшла да палкоўніка і плюнула яму ў твар.

Як ашпараны, падхапіўся гестапавец за сталом і шалёна залямантаваў:

— Расстраляць!

— Страляй, фашыст! За Радзіму не страшна памерці. Савецкія людзі адпомсцяць вам за маю смерць, — гнеўна прамовіла партызанка.

Дзяўчат выклікалі ў гестапа па чарзе. Але ніхто з іх не выдаў размяшчэнне партызан, ніхто нават не заікнуўся пра дзядзю Косцю.

Вечарам таго-ж дня іх расстралялі. А назаўтра мясцовыя жыхары знайшлі каля плоту іх запіску, кінутую, відаць, дзяўчатамі, калі іх вялі на расстрэл. Партызанкі пісалі: «Не трывожцеся. Не выдадзім. Няхай будуць катаваць... Памрэм, як належыць. Памрэм савецкімі патрыёткамі. Тоня, Вера, Надзя».

Любяць спяваць на Віцебшчыне. Зайдзіце вечарам у хату, дзе сабраліся дзяўчаты і хлопцы, і вы пачуеце шчырыя, крыху сумныя дзявочыя песні-самасейкі, як іх тут завуць, аб нядаўным каханні, аб росстані з мілым-чарнавокім, які ідзе ў армію.

Найбольш спяваюць партызанскія песні. Пачынаюць звычайна з песні пра славутага камандзіра Канстанціна Заслонава, як збіраў ён партызанскую брыгаду, як клікаў хлопцаў «пад адхон пускаць эшалоны, рубаць фашыстаў днём і ўначы». Дзяўчаты вельмі любяць баявую і крыху тужлівую песню пра Тоню Любчанка, пра яе барацьбу і гераічную смерць. Пяюць гэтую песню з нейкім асаблівым пачуццём, з такой прачуласцю і сардэчнасцю, што хочацца яе слухаць і раз, і два, і, здаецца, цэлы вечар слухаў-бы адну гэтую песню.

Трывожна шумеў на паляне сасоннік,
Кусты ахінула імгла,
Калі партызанка, адважная Тоня,
Сяброўак на подзвіг вяла.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Загінула, як гераіня, дзяўчына
Пад вечар на ўскраі сяла.
Дачка-камсамолка за маці-Айчыну
У змаганні жыццё аддала.

Пятрусь **МАКАЛЬ**

## ПРЫВАЛ

Усюды — месца для прывала,
Калі ты ўжо не чуеш ног.
З дарогі рухнеш дзе папала —
На першы ўзгорак ці мурог.

Мы з дружбаком, замест пасцелі
Пад бок паслалі шынялі.
Ляжым, прыліпшы мокрым целам
На мокрай ранішняй зямлі.

І раптам нас прадсцерагае
Чыйсь голас ласкавы здаля:
«Пад вамі, потнымі, — сырая,
Як лёд, халодная зямля».

Мы азірнуліся міжвольна
Удвух — таварыш мой і я.
Узбоч дарогі сцежкай польнай
Ішла паспешліва жняя.

І мы з таварышам адчулі
Сябе чамусьці ў гэты час
Дзяцьмі, якім перад матуляй
За ўчынак свой трымаць адказ.

Стаялі моўчкі ля дарогі,
Глядзелі ўслед жанчыне той.
А ранак сыпаў ёй пад ногі
Расінкі жменяй залатой.

Хацелася глядзець без стомы
На гэты край, дзе ты не госць,
На свет, дзе столькі незнаёмых
У цябе сяброў усюды ёсць.



#  В  Е  Ч  А  Р  Ы

# Я  С  Ё  Л  Ы  Я

Да пачатку канцэрта заставалася добрых паўтары гадзіны, а за сцэнай і на другім паверсе, дзе абсталявана некалькі зальцаў, было поўна народу. Аднекуль даносіліся гукі саксафона, нехта настойліва цягнуў адну і тую-ж ноту, спрабуючы свой голас; у калідоры чарнявая дзяўчына сярод штурханіны і гоману спрабавала дэкламаваць верш, а пад засенню вялізнага фікуса выгодна прымасціліся хлопец з дзяўчынай. Нам здавалася, што яны таксама рэпетыруюць нейкую сцэну са спектакля, але па тым, як глядзелі на іх удзельнікі самадзейнасці—спагадліва, з добразычлівай усмешкай — стала зразумела, што мы памыляліся. Бадай толькі гэтая парачка і не была ўзрушана канцэртам, які неўзабаве меўся пачацца.

Мы — людзі прыезджыя і ніколі ў канцэртах не выступаўшыя, таксама мелі дачыненне да гэтага вечара і таксама хваляваліся сваім адметным журналісцкім хваляваннем: хацелася больш убачыць, пагаварыць з кожным самадзейным артыстам, сфатаграфаваць найбольш удалыя нумары, каб падмацаваць напісанае зрокавым матэрыялам.

Яшчэ раніцай, калі мы сядзелі ў невялікім і даволі ўтульным кабінеце дырэктара Дома народнай творчасці, Вольга Іванаўна Дыгайла, выпускніца першага выпуску Беларускага тэатральнага інстытута, сказала нам:

— Калі хочаце мець уяўленне пра нашу работу, дык вы павінны пайсці на канцэрт. І наогул у мінскіх журналістаў дрэнны звычай: яны прыязджаюць у Маладзечна толькі на дзень, а ўвечары прыгарадным цягніком едуць начаваць дадому. Упэўнена — яны ніколі не бачылі горада пасля рабочага дня. Калі не хочаце пераймаць гэты нікуды не варты прыклад, дык застаньцеся і паглядзіце канцэрт. Запэўняю гэта— цікава.

Мы прышлі ў гарадскі Дом культуры ў самы разгар перадканцэртнай мітусні. Паблукаўшы па зальцах другога паверху і адчуўшы сябе там лішнімі, мы сыйшлі на сцэну, за кулісы. На сцэне ладзіўся выступаць хор, нехта, прытуліўшыся да заслоны, выглядаў у запоўнены да рэшты зал праз маленькую дзірачку, толькі для такой мэты і зробленую ў дарагой тканіне.

Тут, таксама, як і на другім паверсе, смех, жарты, неўтаймаваная жыццерадаснасць і весялосць Успомнілася, як аднойчы адзін : аматараў мастацкай самадзейнас ці сказаў, што ў самадзейнасі дзве заслугі: адна — забаўляц гледачоў, другая—саміх удзель нікаў.

Назіраючы за тым, як шырокі ў плячах дзецюкі клапатліва дапа магалі сваім партнёршам прас ваць касцюмы, настройваць м зычныя інструменты, міжволі малася, што можа хто з гэтых

**А. АСІПЕНКА**

Фото С. Чырэшкіна

батых весялуноў ад лішку нерастрачанай энергіі пайшоў-бы пракудзіць на вуліцу. А так з карысцю для сябе і другіх яны цікава праўдуць вольны час.

Пачаўся вечар. Хор змянілі танцоры, дэкламатары, салісты. Малады самадзейны кампазітар Браніслаў Гембіцкі сыграў некалькі сваіх песень, малы, падстрыжаны пад нуль вучань II «Г» класа трэцяй школы Юры Цэнцымер узрушана прачытаў верш пра ката і, прыйшоўшы за кулісы, аб'явіў, што калі яму будуць вельмі апладыраваць, дык у яго ёсць у запасе яшчэ два вершы. Яму, канешне, апладыравалі, бо і сапраўды Юра дэкламаваў добра, з пачуццём. А тым часам за кулісамі збіраўся эстрадны аркестр. Музыкантаў сустракалі з асаблівай павагай. Гэты аркестр, створаны зусім нядаўна, ужо заваяваў любоў сярод аматараў музыкі. Гэта мы адчулі па апладысментах, якія заглушылі голас канферанс'е, калі той аб'явіў, што выступае аркестр.

Як і заўсёды, знайшліся за кулісамі хлопцы і дзяўчаты, якія назвалі нам кожнага з аркестрантаў. Не ведаю, ёсць у нас у Беларусі другі такі аркестр, але маладзечанскі — цудоўны.

Прыдзірлівыя крытыкі, напэўна, знайшлі-б, што ў аркестры часам яшчэ няма прафесійнай зладжанасці, што музыканты не навучыліся валодаць той выразнай мімікай, якая ўласціва джазавым аркестрантам, што...

Ды ці мала «што» можа нагаварыць прыязрэдлівы крытык. Але дазвольце пазнаёміць вас з аркестрам.

Бас — Станіслаў Нядзведскі. Ён шафёр. Заўваг па рабоце няма. Лічыць, што ў аркестры іграе «першую скрыпку»: які-ж без баса аркестр!

Гітара — Аляксандр Мальшаў. Працуе ў цырульні. Кажуць, што майстар неблагі, а што іграе выдатна — у гэтым усе перакана"ы.

На першай трубе іграе Марат Наймарк, выкладчык фізічнага выхавання, на другой — Аляксандр Чыжыкаў, заўхоз дзіцячай бальніцы. Людзі розныя па прафесіі, але аднолькава палюбілі свой аркестр, сваю другую прафесію.

Аркадзі Хабараў — баяніст. Днём ён працуе на электрастанцыі турбамашыністам. Увечары яго баян пяе пра шчасце і каханне.

Заўхоз школы Васіль Юрчанка іграе на трамбоне.

Токар Леў Дзянісаў — на саксафоне. Гэта яго саксафон мы і чулі, як толькі прыйшлі ў клуб.



Дырэктар Дома народнай творчасці В. І. Дыгайла, малады самадзейны скульптар Павел Герасімовіч і метадыст Дома творчасці Уладзімір Усцінавіч Зіновіч.



Самадзейны мастак Уладзімір Пагуца ля сваёй новай карціны «Маладзечна будуецца».

Ёсць у аркестры і памочнік санітарнага ўрача Уладзімір Мятліцкі. У яго самы грамоздкі інструмент — ударнік.

Самадзейны кампазітар Браніслаў Гембіцкі неразлучны са сваім акардэонам.

Душой аркестра з'яўляецца Уладзімір Чарнышоў, які іграе на кларнеце і кіруе аркестрам.

У аркестры ёсць дзве салісткі: Ларыса Бараноўская — інструктар-масавік і Ала Харлаева — машыністка.

Мы знарок пералічылі ўсіх аркестрантаў, каб кожны, хто чытае гэтыя радкі, адчуў, што гэтыя людзі, якія працуюць у розных установах, аб'ёднаны ў аркестр не па ўзмаху чараўнічай палачкі.

Стоячы за кулісамі, мы ўвесь час адчувалі руку арганізатара — маляр з Юрацішак Нікалай Шчаўканосаў напісаў 10 палоцен. Дваццацідвухгадовы калгаснік Іосіф Багрыцэвіч, вучань Чувізаў, калгаснік Іван Занкевіч — таксама мастакі.

А колькі таленавітых скульптараў, рэзчыкаў, вышывальшчыц, ткачых ёсць у кожным раёне! Дом творчасці вядзе з імі вялікую работу. Але настаў час, каб з народнымі талентамі і іх творчасцю знаёміліся не толькі ў межах вобласці. Чаму, напрыклад, не зрабіць такую выстаўку ў Мінску?

Наспела пытанне і аб тым, каб карціны, скульптуры, разьба па дрэву, ткацтва, вышыўка самадзейных мастакоў недзе захоўваліся. Чаму-б, скажам, не стварыць у Мінску музей народнай творчасці?



Аб усім гэтым трэба падумаць.

Неабходна ліквідаваць перашкоды, якія ёсць яшчэ на шляху развіцця мастацкай самадзейнасці. Міністэрству культуры, напэўна, невядома, што кожнае выданне зборніка песень у вобласці натыкаецца часам на прамое супраціўленне Саюза кампазітараў. Пад выглядам барацьбы за высокамастацкую музыку ў Саюзе кампазітараў стварылі абстаноўку, пры якой у вобласці можна выдаць зборнік тады, калі вядомыя кампазітары паставяць пад кожнай песняй сваё прозвішча: «Апрацоўка такога-та»...

Дзіўная дапамога!

І Саюзу мастакоў трэба было-б лепш дапамагаць самадзейным мастакам.

Восем работнікаў Дома народнай творчасці, вядома, не могуць поўнасцю задаволіць запатрабаванні 10 тысяч гурткоўцаў.

Калі за гэта возьмуцца ўсе нашы артысты, мастакі, музыканты, тады ў кожным раёне будуць вось такія вясёлыя вечары, на якіх нам давялося быць у Маладзечна.



Танцавальны калектыў выконвае гапак.

# ВАЖАТАЯ

**Нарыс**

Увечары Лена запісвала ў дзённік: «4 верасня. Адзін жах! Кастусь П. у бабкі Тодарыхі краў гуркі. Сваімі вачыма я гэта бачыла, ідучы праз тодараў агарод. Спужаўся Кастусь, убачыўшы мяне. Як сядзеў на карачках, так і не ўстаў. Стараючыся быць спакойнай, не грубіць, я спытала ў яго: «Хіба ў вас няма гуркоў? Не ўрадзілі, мусіць? І шмат ты хацеў нарваць?» Спачатку Кастусь маўчаў, потым заплакаў. «Што рабіць з ім, — круцілася ў маёй галаве.— Сказаць зараз-жа бабцы ці змаўчаць?» Вырашыла, сама яшчэ не ведаючы чаму, маўчаць. Кастусю прапанавала пайсці ў мае грады і нарваць гуркоў, колькі яму трэба. Сказала так і пайшла. Мне вельмі хацелася азірнуцца і паглядзець, што робіць Кастусь, але я не павярнула галавы. Два дні Кастусь не быў у школе. Але, мусіць, даведаўшыся, што я змаўчала аб яго ўчынку, прышоў. Мяне абыходзіць, стараецца не трапляць на вочы. Цікава, ці мае злачынства ў адносінах да бабкі Тодарыхі прынясе хоць карысць?»

Лена палажыла ручку, задумалася. Перад вачыма стаяў Кастусь, ссутулены, у новай, але з брудным каўняром сарочцы, з непадстрыжанымі валасамі, з поўнай пазухай гуркоў. «Прагледзела чалавека, таварыш важатая.— Лена са злосцю закрыла дзённік. — Хваляць зборы, самадзейнасць, вучобу і дысцыпліну ў школе, а Кастуся прагледзелі, а можа і не аднаго яго...»

Назаўтра Лена стаяла каля акна ў настаўніцкай і назірала за Кастусём. Ён стаяў воддаль ад сваіх аднакласнікаў, якія, расселюшыся пад ліпамі, горача абмяркоўвалі новы нумар піянерскай газеты. «Яго нічога не цікавіць»,—падумала Лена і адвярнулася ад акна. Спытала ў настаўнікаў, можа хто з іх выклікаў Кастуся.

— Я, па фізіцы. Нічога, паставіў тройку. Горш у яго з дысцыплінай, — адказаў Пётр Аляксеевіч.

Яго падтрымала і Анна Васільеўна, кастусёва класная кіраўніца:

— Паспявае, але вельмі недысцыплінаваны. Дзе што якое — абавязкова ён. І колькі да бацькоў хадзіла, а нічога не дапамагае. Праўда, сёння даў слова, што падстрыжэцца. Хоць з выгляду будзе на чалавека падобны.

«Хоць з выгляду, — іранічна ўсміхнуўшыся, ціха паўтарыла Лена. — А ў гуркі лазіць, крадзе... І я ні разу не была ў яго дома»,— падумала яна.

Празвінеў званок. Лена пайшла на ўрок у клас, дзе вучыўся Кастусь. Яна села так, каб бачыць кастусёў профіль. Першых некалькі хвілін Кастусь не спускаў вачэй з настаўніка, потым зірнуў скоса на Лену, — яна паспела адвесці свой позірк убок, — і адсунуўся на канец парты, бліжэй да акна. Падпёршы галаву рукамі, Кастусь глядзеў то на настаўніка, то ў акно, хоць там нічога не было відаць, акрамя чыстага сіняга неба і высокіх вершалін старых ліп. У канцы ўрока пры замацаванні выклікалі і Кастуся. Ён не поўнасцю, але адказаў на пытанне. «Як і ўсе. Ну, чаго я прычапілася да яго? Ну, палез у грады... Бывае», — у замяшанні думала Лена, але перад вачыма паўставаў другі Кастусь. З поўнай пазухай крадзеных гуркоў...

Зазванілі на перапынак. Кастусь пастараўся першым выйсці з класа. «Не хоча сустрэцца са мной, — уздыхнула Лена. — Пабачым, што будзе далей».

Назаўтра Кастусь прышоў падстрыжаны, у чыстай сарочцы. Лена, убачыўшы яго пасвятлеўшым, з палёгкай уздыхнула.

...Стаяла непагадзь. Халодны вецер, налятаючы парывамі, рваў пажаўцелае лісце, гнуў галіны да долу, па дарогах круціў пыл, салому. З вечара адразу цямнела, нічога не відаць было нават паблізу.

Лена варочалася з Карэліч. Сонца ўжо зайшло, і сцежкі, якая вілася ў гаросе, не было відаць. Лена ліхтарыкам асвятляла сабе дарогу і ішла падбегам. Насустрач ветру цяжка было ісці, каченелі ад холаду пальцы. «Каб хутчэй увайсці ў сад, там заціншней», — падумала Лена і прыбавіла кроку. І раптам... спынілася. Уперадзе нехта выскачыў з гароху на сцежку, потым скочыў назад, прытаіўся. «Нехта мяне спужаўся», — усміхнулася Лена. Ступіла некалькі крокаў, скіравала святло ліхтарыка ўбок, на гарох, і ад нечаканасці ўскрыкнула. Распластаўшыся на зямлі ніцма, без шапкі, ляжаў Кастусь. Яна пазнала яго па стрыжанай галаве і доўгіх адтапыраных вушах.

— Ай-я-я-яй! Ах, Кастусь, Кастусь, — усё адно і тое-ж гаварыла Лена, асвятляючы хлапчука і не рухаючыся з месца.

Кастусь хутка ўсхапіўся, надзеў шапку, засунуў рукі ў кішэні і неяк абыякава сказаў:

— Я рваў гарох. Хлопцы папрасілі на вечар.

— Ах, Кастусь, Кастусь. Ай-я-я-яй! — і больш нічога Лена не магла сказаць.

Маўчаў і хлапчук. Пайшлі. Лена ўперадзе, Кастусь за ёю. Падыйшлі да вёскі, дарогі іх разыходзіліся. Кастусь, не развітаўшыся, звярнуў на сваю вуліцу. «І што я раблю? Чаму я першы раз змаўчала? — злавала на сябе Лена. — Думала, паможа, падзейнічае гэта на яго. Не. Хопіць. Заўтра пастаўлю пытанне на зборы звяна». Здавалася, што рашэнне было цвёрдым, але і на гэты раз Лена змаўчала не толькі на зборы звяна, але і перад кастусёвым класным кіраўніком. Вырашыла спачатку пагаварыць з яго маці.

...Маці Кастуся, яшчэ маладая жанчына, аказалася гаваркой і ветлівай. Яна сустрэла Лену з трывогай.

— Мусіць, нешта ён там нарабіў зноў? Сядайце, калі ласка. — Яна змахнула фартухом з лавы. — Сядайце. Усё Васільеўна хадзіла, а то ўжо вы прыйшлі. А дома, паверыце, я не нацешуся з Кастуся. І чаму ён такі ў школе, не дайду да толку?! Бяда з гэтымі хлопцамі. Шчаслівыя, у каго дзяўчаты. А ў мяне ўсё хлопцы. І гэты хлапчук, — жанчына падыйшла да калыскі, з любоўю паглядзела на дзіця. — А так чакалі дачку...

І Лена падыйшла да калыскі. Тоўсценькі малыш працягваў да яе пухлыя ручаняты, смяяўся бяззубым роцікам. Лена ўсміхнулася, паказытала яго, узяла на рукі, падкінула высока. Малы запішчэў ад захаплення.

— Ён так на Кастуся падобны,— заўважыла Лена.

Жанчына з замілаваннем паглядзела на яе.

— Падобны... усе кажуць. А той так любіць з ім забаўляцца. Ён яго і перапавіе і пакорміць...

«А ў школе які ён, а гуркі... а гарох»,— стукала бы малатком у ленінай галаве.

— А ў вас сястрычка ці брацік ёсць?

— Няма, — уздыхнула Лена.

— А мамка ваша далёка дзе? Мусіць, вы здалёк?

— І мамы ў мяне няма, і таты няма. Здалёк я, — нехаця адказала Лена. Ёй не хацелася аб гэтым гаварыць, але жанчына зноў пытала:

— Памерлі? А даўно? А як-жа вы? Нябось, цяжка адной тут, у чужых людзях. Не дай бог якой хваробы, дык некаму і вады падаць. А з родзічаў хто ёсць?

Лена адмоўна заківала галавой: — Адна я, — і пачала расказваць аб тым, аб чым даўно не расказвала: як у самым пачатку вайны памерла яе маці, бацька пазней загінуў на фронце. Як іх— дзяцей — фашысты грузілі ў Ноўгарадзе на цягнік, каб завезці ў Германію. Як узарваны мост каля Ліды не даў магчымасці пайсці цягніку далей, і іх перагрузілі на падводы і прывезлі сюды ў Карэлічы, у сірочы дом. Як уцякла яна з гэтага пекла і папала ў вёску Матавічы. Там удава прыняла яе да сябе за няньку і пастушку. Як потым, пасля ўжо вызвалення, узялі яе ў дзіцячы дом, які заснаваўся ў Карэлічах, дзе яна жыла, вучылася да пятнаццаці год. На шаснаццатым пайшла працаваць піянерважатай. Працавала і вучылася, закончыла педвучылішча.

Жанчына, узяўшы малога на рукі і прытуліўшы да грудзей, не спускала вачэй з Лены. У яе

шэрых прыжмураных вачах бачыла Лена не толькі спачуванне, але і жах, страх за сваіх дзяцей.

— Божа, божа, — шаптала жанчына. — А колькі-ж вам год зараз?

— Дваццаць два.

— Столькі ўжо гора пабачылі за свае гады... Праклятая вайна...

У хату ўвайшоў Кастусь. Як убачыў Лену, дык і аслупянеў у парозе. Часта моргаў вачыма і не адважваўся прайсці далей.

— Ну, што ты, Кастусь? Натварыў нечага, а цяпер спужаўся. А ну, хадзі сюды. Я зараз вось пры іх... — гаварыла жанчына з ненатуральнай паспешлівасцю. Яна палажыла малога ў калыску. Лена бачыла, як задрыжэлі ў яе рукі, калі яна схапілася за пасак. — Хадзі, я табе пакажу. Ах, божа, божа, — у жанчыны былі вочы, поўныя слёз.

І Лена не вытрымала, яна схапіла жанчыну за руку і, пачырванеўшы, сказала:

— Чаму вы думаеце, што Кастусь зрабіў нешта дрэннае? Не. Я да вас прыйшла проста пазнаёміцца. Кастусь-жа піонер, я старэйшая піонерважатая і ні разу ў яго дома не была. Вось вас бачу ўпершыню за доўгія гады маёй работы тут. Жданава маё прозвішча, Алена Міхайлаўна, — Лена працягнула жанчыне руку. Жанчына схапіла яе руку і моцна паціснула. Лена лёгка ўздыхнула. — Ну, вось, а вы хваляваліся дарэмна. Кастусь нядрэнны хлопчык. Ну, было там трохі... а цяпер ужо нічога. Я веру, што ён заўсёды будзе толькі добрым.

Кастусь, не верачы сваім вушам, лыпаў вачыма і глядзеў то на Лену, то на маці. А жанчына шчасліва ўсміхалася.

— І я-ж думаю, што ён там мог нарабіць? Ён такі паслухмяны, што ні скажу — усё зробіць. І посуд нават памые, хоць гэта і не яго работа. А вы кажыце, калі што якое. Я дам яму ў косці, а бацька дык скуру здыме...

Лена пасядзела яшчэ некалькі хвілін і, цёпла развітаўшыся, пайшла. Кастусь кінуўся да акна і, не моргаючы, глядзеў ёй услед.

За вячэрай Лена думала: «Я маўчу і хлушу, але нічога, нічога, некалі я скажу аб усім. Толькі няхай ён стане іншым! Я буду доўга і цярпліва чакаць. Няўжо ён не зразумее мяне?!»

...У гэтую ноч Лена амаль не заснула. Кашаль раздзіраў грудзі, душыў за горла. Так было амаль кожную восень, але цяпер кашаль стаў яшчэ мацнейшым. Ён не даваў спакою Лене ўжо некалькі дзён. Раніцай заўсёды невыносна балела ў грудзях, шумела ў галаве. Лена старалася не звяртаць на гэта ўвагі, але адчувала, што з кожным днём становіцца горш. Увечары памерала тэмпературу. Было 39 градусаў. Толькі раніцай тэмпература крыху паменшылася. І Лена з ложка не паднялася. Сябры выклікалі доктара з Карэліч, і Лене прышлося легчы ў бальніцу. Праляжала яна ў Карэлічах толькі два дні, а адтуль на самалёце была адпраўлена ў Гродна.

— Ці паправіцца яна? — трывожна пыталі ў доктара яе сябры.

— Паправіцца, але да гэтага трэба многа яшчэ...

...Лячэнне ішло добра. Лена ляжала адна ў палаце і глядзела ў акно, за якім шумела пасохшае лісце. Ні аб чым не думалася, да ўсяго навакольнага была нейкая абыякавасць...

Няня прычыніла дзверы і, убачыўшы, што Лена не спіць, увайшла ў палату.

— Не спіш, галубка. Усё думаеш аб нечым. Нічога, хутка паправішся. Пацярпі. Усяк на вяку чалавеку прыходзіцца. Зараз пошта будзе, вестачку добрую атрымаеш ад сваіх.

— Няма каму пісаць мне.

— Што ты, што ты, хіба мала ў цябе сяброў?

— Няня, вазьміце пошту на свае палаты, — крыкнуў на калідоры малады голас.

— Іду, іду. Леначка, зараз затанцуеш.

Лена ўздыхнула, але адчула, як мацней забілася сэрца, кроў стукнула ў галаву. Яна нават прыўзнялася на падушках, прыслухалася ў чаканні. А калі скрыпнулі дзверы, Лена заплюшчыла вочы, прытварылася, што дрэмле. А няня смяялася:

— Казала, што будзеш танцаваць. Ну, нічога, адтанцуеш. Аж пяць пісем...

Лена чытала моўчкі, а няня крадком выцірала вочы.

— Ну, што-ж хаця пішуць?

Лена не адказала, яна не магла чытаць: радкі пісьма то зліваліся ў роўненькія шнурочкі, то разбягаліся бісерам літары... Лена заплюшчыла вочы, пацяклі няпрошаныя слёзы.

Увайшоў доктар, паслухаў пульс.

— Што такое? Пульс часцейшы... Чаму плачаш, Лена? — доктар прысеў на ложак побач. Лена маўчала.

Няня падала доктару пісьмы, якія не дачытала Лена. Доктар прабег вачыма: «Добры дзень, Алена Міхайлаўна! У першых радках свайго пісьма паведамляю Вам, што я жыў і здароў, чаго і Вам ад усёй душы жадаю. Магу паведаміць Вам, што я вучуся без двоек і ўважліва слухаю настаўнікаў. І не хаджу нікуды, каб дзе што ўзяць. Не слухаю хлопцаў, бо маю галаву на плячах. Я ніколі Вас не забуду, што Вы нічога нікому не сказалі, што засталі мяне ў гурках і ў гаросе. Я жадаю ад усяго сэрца, каб Вы хутчэй паправіліся і прыехалі ў школу. Усе мы Вас вельмі чакаем. Для Вас мы зрабілі тры пасылкі з яблыкамі і многа чаго яшчэ паклалі. Мая мамка для Вас сухарыкаў напякла. Ежце на добрае здароўе і папраўляйцеся і хутчэй прыязджайце.

Ваш піонер Кастусь П.»

Другое ўзяў у рукі: «...Кастусь стаў непазнавальны, нават не верыцца. Леначка, каб ты яго зараз бачыла, то была-б на дзесятым небе! Ты так нам патрэбна, без цябе, як без рук. Мой малы ўсё пытае: «Дзе цёця Лена, я хачу да цёці Лены». Леначка, не дурыся там доўга, не хныкай дарэмна без толку. Чакаем, ляці да нас на крылах.

Моцна цалую цябе
і чакаю здаровай. Твая Аня».

Доктар палажыў пісьмы на тумбачку, паглядзеў на Лену, якая ўсё яшчэ ляжала з заплюшчанымі вачыма, і ціха выйшаў. За ім выйшла і няня.

— Можа, не добра, што я аддала ёй пісьмы зараз?

— Добра, вельмі добра, няня. Гэта лепш за ўсякія лякарствы.

**Ларыса МАРУШКА,**
**настаўніца Запольскай сямігадовай школы Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці.**



1


2


3


4

ДА 40-ГОДДЗЯ ВЯЛІКАЙ КАСТРЫЧНІЦКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭВОЛЮЦЫІ

# ГЕРАІЧНЫЯ СТАРОНКІ МІНУЛАГА

Беларускі Дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны праводзіць вялікую работу па збіранню дакументаў і фотаздымкаў, якія асвятляюць рэвалюцыйныя падзеі на тэрыторыі нашай рэспублікі. Удзельнікі гэтых падзей, якія жывуць у розных гарадах Савецкага Саюза, актыўна дапамагаюць у гэтай вялікай і важнай рабоце, перадаючы музею каштоўныя дакументы і ўнікальныя фотаздымкі, якія раней не з'яўляліся ў друку. Фотаздымкі часоў рэвалюцыі і грамадзянскай вайны перадалі музею тт. Іваноў М. П., Дзірык К. Я., Веліканаў Ф. Е., Іоўлеў А. С., Шпак Г. К. і іншыя.

Аб лютаўскіх рэвалюцыйных падзеях 1917 года ў Петраградзе і звяржэнні царызма ў Мінску стала вядома 1 сакавіка 1917 г. 3—4 сакавіка мінскія бальшэвікі пад кіраўніцтвам М. В. Фрунзе раззброілі паліцыю і жандармерыю і прыступілі да стварэння Мінскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. 4 сакавіка 1917 г. у Мінску адбылася агульнагарадская дэманстрацыя. Спынілі работу ўсе фабрыкі, заводы, майстэрні. Вуліцы горада запоўнілі рабочыя і салдаты. На здымку № 1 паказана першая агульнагарадская дэманстрацыя ў Мінску ў сакавіку 1917 года.

6 сакавіка 1917 г. у Мінску на Саборнай плошчы (цяперашняй Плошчы Свабоды) адбыўся грандыёзны агульнагарадскі мітынг. Вось як апісвае газета «Известия Минского Совета» ад 7 сакавіка 1917 г. гэтую падзею: «Нягледзячы на няспрыяльнае ўпачатку надвор'е, вялізныя натоўпы народа запрудзілі Саборную плошчу і прылягаючыя вуліцы. Масы войска з чырвонымі сцягамі выстраены былі на плошчы. Усюды чырвоныя сцягі і плакаты: «Няхай жыве Расійская сацыял-дэмакратычная партыя!», «Няхай жыве рэвалюцыйная армія!», «Няхай жыве свабодная Расія!», «Няхай жыве свабодны беларускі народ!» і іншыя. Гэта быў сапраўдны агляд рэвалюцыйных сіл Заходняга фронта і г. Мінска ў барацьбе за народную ўладу ў асобе Саветаў». На здымку № 2 вы бачыце агульнагарадскі мітынг у Мінску 6 сакавіка 1917 года.

Пасля перамогі Лютаўскай рэвалюцыі працоўныя Расіі ў 1917 г. упершыню легальна святкавалі міжнароднае свята салідарнасці ўсіх працоўных — 1 Мая. Святкаванне яго прайшло з вялікім уздымам. Па вуліцах гарадоў праходзілі групы рабочых, служачых, салдат з чырвонымі сцягамі, на якіх былі надпісы: «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!», «Няхай жыве дэмакратычная рэспубліка! 8-гадзінны рабочы дзень! Свабодны друк!» Узначальвалі дэманстрацыі прадстаўнікі Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў. На здымку № 3 — першамайская дэманстрацыя 1917 г. у г. Віцебску.

Беларусь (або Поўночна-Заходні край, як яе раней называлі) была цэнтрам Заходняга фронта. У 1917 г. на Заходнім фронце ў якасці салдат знаходзіліся прадстаўнікі розных народаў Расіі. Асабліва многа было тут рэвалюцыйна настроеных рабочых, якіх Часовы ўрад выслаў на фронт з прамысловых цэнтраў краіны. Знаходзячыся ў Беларусі, яны прымалі самы актыўны ўдзел у правядзенні Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. На здымку № 4 — 1-ы латышскі кавалерыйскі рэвалюцыйны атрад, якім камандаваў камуніст Відзіс. У 1917 г. атрад знаходзіўся ў Віцебску і з'яўляўся адной з баявых адзінак, на якія абапіраўся Віцебскі Совет рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

Пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, калі полчышчы замежных інтэрвентаў і ўнутранай белагвардзейшчыны пачалі наступаць на маладую Савецкую дзяржаву, усе народы нашай краіны паўсталі на яе абарону. На тэрыторыі Беларусі разам з беларускім народам змагаліся многія нашы брацкія народы. На здымку № 5 — усць-дзвінскі латышскі атрад у г. Магілёве. У 1918 г. ён прымаў удзел у разгроме белапольскага легіёна Доўбар-Мусніцкага.

Не толькі ў гарадах, але і ў вёсках утвараліся атрады Чырвонай гвардыі, яны былі асноўнай узброенай сілай, на якую абапіраліся рэўкомы і валвыканкомы на месцах. Чырвонагвардзейскія атрады прымалі актыўны ўдзел ва ўстанаўленні Савецкай улады, ахоўвалі інтарэсы працоўных у перыяд нашэсця акупантаў на нашу рэспубліку. На здымку № 6 — чырвонагвардзейскі атрад вёскі Любінічы Горацкага павету Магілёўскай губерні, 1919 год.

У 1919-20 г. на тэрыторыі захопленай белапольскімі акупантамі часткі Беларусі рос і пашыраўся партызанскі рух, якім кіраваў ЦК Літвы і Беларусі. У партызанскіх атрадах змагаліся людзі розных узростаў. Усім вядома імя беларускага партызана В. І. Талаша, атрад якога дзейнічаў на Палессі. Былі і атрады, якія цалкам складаліся з моладзі. На здымку № 7—маладзёжны партызанскі атрад у Белавежскай пушчы, 1920 год. Атрад рухаўся на Піншчыну ў распараджэнне камандзіра партызанскіх атрадаў Піншчыны — Іоўлева А. С.

На дапамогу беларускаму народу прыйшла загартаваная ў баях з інтэрвентамі і белагвардзейцамі Чырвоная Армія. На тэрыторыі Беларусі змагалася 16 армія, большасць байцоў якой складалася з ураджэнцаў Беларусі. На здымку № 8 — каманды састаў 51 стралковай брыгады 17 стралковай дывізіі 16 арміі, якая ўдзельнічала ў вызваленні Мінска ад белапанскіх акупантаў у 1920 годзе.

**О. ВЕРАМЕЙЧЫК,**

**старшы навуковы супрацоўнік Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.**


5


6


7


8

# Завіруха ў стэпу

**В. ПРЫЛУЦКІ,**
**брыгадзір трактарнай брыгады соўгаса «Сулукульскі» Кустанайскай вобласці**

Мал. Ф. Бараноўскага.

Снежаньскім днём завіруха дасягнула ўраганнай сілы, яна лютавала, кружыла снег. Гэтым часам у канторку жывёлагадоўчай фермы з самага далёкага пункта прыехаў пасланец— адзін з лепшых аўчараў соўгаса Сабіт Ахметжанаў. Адагрэўшыся ля горача напаленай грубкі, ён коратка, з затоенай унутранай трывогай сказаў:

— Сена засталося на два дні,— і, зірнуўшы проста ў вочы ўпраўляючаму фермай Міхаілу Качко, зусім ціха дадаў: — Бяда ідзе. Што рабіць, кажы, упраўляючы?

Упраўляючы фермай, нестары яшчэ чалавек, заўсёды акуратны і жыццерадасны, у гэтыя цяжкія для гаспадаркі дні неяк адразу пасуровеў і схуднеў. Усмешка цяпер рэдка калі асвятляла яго твар. Моўчкі ўстаўшы, ён падыйшоў да акна і доўга ўслухоўваўся ў тое, як барабаніў снег у шыбы вокан. Павярнуўшыся да старога чабана, нявесела заўважыў:

— Кажаш, сена канчаецца? Ведаю. Але што рабіць, аксакал?* Людзей на згубу пысылаць? Ды і дзе знойдуцца такія смельчакі?

— Навошта на згубу? — сумна ўздыхнуў той.— Я сказаў, крыўдна на жывёліну глядзець! Ідзе акот, маткі слабыя, сена добрае патрэбна.— І ўжо з рашучасцю ў голасе закончыў: — Прывезці яго можна і трэба.

— Ты хочаш сказаць, што я са спакойным сумленнем адпраўлю людзей у гэтакую завіруху па сена?

Сабіт Ахметжанаў памаўчаў. Ён выняў з кішэні капшук і асцярожна засыпаў за губу некалькі каліў дробна пацёртага з попелам тытуню. Ён, здавалася, не заўважыў усхваляванага ўпраўляючага, які сюды-туды хадзіў па прасторным пакоі. А потым ускінуў вочы і ціха выказаў сваё:

— Добра, калі душа баліць аб людзях.

Светлая ўсмешка на момант зрабіла твар казаха маладым і хітраватым, але слізгануўшы па карычневых зморшчках у белай, нібы соль перасохлага стэпавага возера, барадзе, яна знікла, і твар старога па-ранейшаму стаў урачыста суровым.

— Я толькі сказаў, у нас знойдуцца джыгіты, якія не спалохаюцца жынды завіруха.**

— Хто-ж яны такія? — пацікавіўся Качко.

— Ты хіба забыў пра камсамольцаў-беларусаў? Калі трэба, дык адолеюць завіруху. Жаксы*** хлопцы. Скажы толькі.

— Я думаў пра іх, аксакал. Ды адвагай адной тут не возьмеш. У стэпу яны людзі чужыя. Хіба доўга ў гэткай завеі збіцца з дарогі? А збіўся з дарогі — прапаў чалавек. Замерзне.

Ахметжанаў у знак згоды моўчкі кіўнуў галавой і, падумаўшы, ціха сказаў:

— А ты пашлі, упраўляючы, мяне ў праваднікі. Ці можа думаеш, што стары Сабіт таксама саб'ецца з дарогі?

— Ты гэта сур'ёзна кажаш, аксакал?

— Авечкі гінуць, жартаваць нельга. Хлопцы смелыя, а Сабіт дарогу ведае, як свой аул, вось сена будзе.

Упраўляючы з палёгкай уздыхнуў.

— Хадзем да хлопцаў. Хітры стары, навошта валаводзіў. Была такая думка, дык адразу-б і казаў.

У хлопцаў у інтэрнаце цёпла і ўтульна. Радыёпрыёмнік, патрэскваючы, даносіць за тысячы кілометраў голас Масквы. Трактарысты ў вольны час робяць кожны сваё: гуляюць у шахматы, чытаюць, пішуць лісты. Прыход упраўляючага і старога чабана сустрэлі жартам:

— Якім ветрам занесла вас, Міхаіл Сідаравіч?

— Не інакш, выпадкова. У такое надвор'е, як той казаў, хлеба не еж і з хаты не лезь.

— Так, завіруха аж гудзе, у Казахстане даўно такой не было,— адказаў упраўляючы,— але нас сюды вецер занёс не выпадкова.

— Мабыць, работка ёсць? — пацікавіўся Вася Задарожны.

— Дальбог, абрыдла сядзець і слухаць скавытанне завірухі.

— Бач ты, які нецярплівы,— усміхнуўся Міхаіл Сідаравіч і ўжо сур'ёзна дадаў: — Справа, хлопчыкі, ёсць і вельмі важная, накшталт баявога задання. Не выканаем — загіне не адзін дзесятак, а можа і не адна сотня авечак. Сена патрэбна, — і ўглядаючыся ў твары хлопцаў, якія адразу пасуровелі, працягваў: — Рэйс будзе цяжкі, калі хочаце, нават рызыкоўны. Але іншага нічога нельга прыдумаць.



— Нельга прыдумаць, — пацвердзіў, страсянуўшы галавой, Сабіт Ахметжанаў.

Хлопцы маўчалі. Кожны ведаў, што такое завіруха ў стэпу. Было-ж гэтай зімой такое, што людзі, вышаўшы ў стэп, зніклі без следу. І тады спакойна за ўсіх адказаў Георгі Калінін, комсамольскі важак брыгады:

— Я думаю, што агітаваць нас не трэба. Калі гэта неабходна, мы ўсе пойдзем. Правільна я кажу, таварышы?

— Правільна, — дружна адгукнуліся ўсе.

— Навошта тут многа гаварыць?

— Дзякуй вам, хлопцы, — сказаў упраўляючы. — Іншага я і не чакаў. Усім, вядома, ісці няма чаго. Патрэбна толькі два трактарысты. Няхай брыгадзір сам вызначыць людзей.

— У рэйс пойдуць Мікалай Фурман і Валодзя Лавашнікаў.

— Ну, з гэтым я не згодзен,— запратэставаў Задарожны.— Чаму мяне не вызначылі? Думалі, што завірухі спалохаюся?

— Не хвалюйся дарма, Васіль,— заспакоіў сябра Жэня Пратасевіч.

— Для гэткага надвор'я ты залішне гарачы.

Праз гадзіну трактары выйшлі з гаража.

Толькі на трэція суткі трактар Лавашнікава вярнуўся на ферму. Ён прыцягнуў двое саней, гружаных дабрэнным зялёным сенам. Другая машына засталася ў стэпу. Паліва застыла ў трубках, і трактар заглух. Разагрэць яго на ўраганным ветры было нельга. Валодзя Лавашнікаў ледзь зняў з рычагоў пасінелыя, з адмарожанымі пальцамі рукі, а выйсці з кабіны ў яго не хапіла сілы.

— Так ездзіць нельга. Трактары паломім, — гэта адно, а галоўнае,— ён паклаў на стол забінтаваныя рукі,— памерзнем, нібы мухі. Усміхнуўшыся, ён скончыў:

— На гэты раз нам добра яшчэ абыйшлося, я думаў, што горш будзе.

— Калі-б не стары Сабіт, наўрад ці вярнуліся-б мы,— уставіў сваё Мікола Фурман.

— Вядома,— згадзіўся Валодзя і, крыху памаўчаўшы, зноў працягваў: — Так ці гэтак, а вазіць сена, таварышы, нам трэба. А каб з іншымі не здарылася тое, што з намі, дык трэба нешта прыдумаць.

— На маю думку,— нясмела заўважыла Галя Астапенка,— трэба кабіну і бак з гаручым ацяпліць. Але як? Паставіць невялікую грубку?

— Не выйдзе! З грубкай нічога не выйдзе,— адхілілі гэтую прапанову трактарысты.

— Я думаў пра гэта,— устаў з месца Жора Калінін.— Трэба выхлапныя газы праз сістэму труб накіраваць у кабіну і пад бак. Гэта, папершае, а па-другое, закрыць наглуха капоты і знізу пад матор падвесці шчыльны брызент. Цёплае паветра вентылятар пагоніць у кабіну.

— Ндрэнна атрымалася-б,— згадзіўся Грыша Квач,—але, мне здаецца, работа гэта складаная.

— А на маю думку, нават вельмі простая,— кінуў у яго бок Жора.

— Вось паглядзіце, — і ўзяўшы аловак, ён хуценька намаляваў на паперы схему ацяплення кабіны.

— Добра-ж вельмі атрымліваецца!

— Значыць, справа толькі ў трубах? — падбадзёраны каштоўнай знаходкай, пыталі з усмешкамі хлопцы «вынаходніка».

— Вось іменна, у трубах,— пацвердзіў Жора, — і паглядзіцё, у кабінах нават горача будзе.

Хлопцы задаволена гаманілі, спрачаліся.

— Адкладваць не будзем, бо адклад не ідзе ў лад.

На трэці дзень пасля гэтай размовы чатыры трактары ўжо былі гатовы. На выхлапную трубу надзявалася дадатковае калена, якое праходзіла праз кабіну і, разгаліноўваўшыся, абхапляла бак. Выхлапныя газы выходзілі ззаду трактара. Кабіна і гаручае ў баку вельмі добра праграваліся. На трубы, якія праходзілі знадворку, выхлапную і тую, што ўваходзіла ў кабіну, былі надзеты кажухі з труб большага дыяметра. Паветра, якое знаходзілася паміж імі, поўнасцю захоўвала цяпло.

Гэтае ўладкаванне дазволіла выходзіць у стэп у любое надвор'е. Нават калі маразы дасягалі 50—60 градусаў, можна было сядзець у кабіне ў лёгкай ватоўцы.

Недахопу сена для авечак мы больш не адчувалі.

---

* Аксакал — сівая барада (зварот да старэйшага).

** Жынды завіруха — шалёная завіруха.

*** Жаксы хлопцы — выдатныя хлопцы.



# ТРАКТАРЫ СТАНОВЯЦЦА Ў КАЛОНУ

С. КУХАРАЎ

Здалёк гэтыя строгія мураваныя будынкі, што раскінуліся па левы бок чыгункі ў Ждановічах, нагадваюць заводскі пасёлак. На ўзгорку светлымі шклянымі вокнамі пазірае на аснежаную прастору высокі цэнтральны будынак-корпус, вакол яго чырвоныя прамавугольнікі — гаражы, за імі—ваданапорная вежа, а злева дыміцца труба качагаркі... Тут-жа двухпавярховы жылы дом-інтэрнат, камбінат бытавога абслугоўвання, а крыху далей мураваны дамок-кантора. Гэта сядзіба новай Ждановіцкай МТС, якая ўзнікла тут тры гады назад, пасля вядомага вераснёўскага Пленума ЦК КПСС, дзеля аблягчэння працы калгаснікаў.

За гэты час на пясчаным узгорку вырас новы, упарадкаваны гарадок. Абжыліся на новым месцы і згуртаваліся ў дружны, працавіты калектыў механізатары, людзі, якія прышлі з розных прадпрыемстваў, з навакольных калгасаў, а то і адразу са школьнай парты.

Дырэктар МТС Максім Усцінавіч Крыцкі, пажылы, грузны, але рухавы і бадзёры чалавек, знаёмячы нас з людзьмі і справамі станцыі, гаворыць:

— Наш калектыў малады не толькі па працоўнаму стажу. Пераважная большасць людзей у МТС — людзі маладыя, энергічныя. З імі можна, як кажуць, гару сапхнуць!

І тут-жа, парывіста зняўшы акуляры, жартаўліва дадае: — Хіба, можа, вось дырэктар—ужо стары корч. Але сярод маладых і сам маладзееш...

Між іншым, Максім Усцінавіч зусім не стары, хоць яму ўжо за пяцьдзесят. Ён не забыў яшчэ свайго неспакойнага юнацтва, калі камсамольцам у гады грамадзянскай вайны партызаніў на Чарнамор'і, калі потым па закліку партыі арганізоўваў у данскіх стэпах калгасы. І цяпер, нягледзячы на свае пажылыя гады, калі партыя кінула кліч комуністам і камсамольцам узначаліць барацьбу за ўздым сельскай гаспадаркі, ён адным з першых сярод мінскіх комуністаў сказаў:

— Маё месца там, дзе сёння цяжэй, — на перадавой лініі хлебнага фронта!

...Ужо трэцяя зіма намятае сумёты ў ждановіцкіх пералесках; пранізлівы зімовы сівер віхурыць пазёмку на звілістых палявых дарогах. Як і летам, дырэктар МТС на жвавым газіку-ўсюдыходзе працярэблівае шлях ад калгаса да калгаса, з брыгады ў брыгаду. І курсіруе ён не адзін: з ім і галоўны інжынер Хоміч, і галоўны заатэхнік Шаркевіч, і парторг Туманаў, і іншыя спецыялісты. Добрая рыса ў Максіма Усцінавіча: не любіць ён сядзець у кабінеце, хоць ён у яго куды лепшы, чым у той час, калі працаваў у Мінску, у абласным упраўленні.

Ездзяць эмтээсаўцы з калгаса ў калгас не таму, каб толькі самім быць «у курсе справы», а таму, што рупяцца, як сапраўдныя гаспадары, аб лёсе будучага ураджаю. Работнікі МТС, сур'ёзна вывучыўшы калгасныя справы, са сваімі прапановамі і думкамі выступаюць на пасяджэнні праўлення і тут-жа вырашаюць, што трэба неадкладна зрабіць, каб падцягнуць той ці іншы ўчастак.

Узяць, скажам, жывёлагадоўлю — галоўны калгасны цэх. Жывёлаводы Мінскага раёна заваявалі першынство ў рэспубліканскім спаборніцтве па вытворчасці малаке, мяса. І ў гэтым немалая заслуга маладых механізатараў. Комсамольска-маладзёжныя трактарныя брыгады Івана Будая і Івана Міхаліка не абмежаваліся тым, што ў час пасеялі і ўбралі кукурузу, травы, коранеплоды, бульбу, нарыхтавалі шмат сіласу, але і ў зімовыя дні дапамагаюць жывёлаводам: манціруюць падвесныя дарогі, пракладваюць вадаправоды, устанаўліваюць кормазапарнікі, адным словам, сваімі ўмелымі рукамі, творчай думкай вырашаюць задачу поўнай механізацыі працы жывёлагадоўлі.

У МТС не толькі дырэктар і галоўны зоатэхнік, але брыгадзір, радавыя трактарысты — усе механізатары, нават загадчык гаража Нікалаеў, чалавек заняты выключна аўтатранспартам, дакладна вам скажа, колькі ў калгасах іхняй зоны сёння надоена малака; кожны механізатар ведае, што іх Ждановіцкая МТС у зімовы час выйшла на першае месца ў рэспубліцы па надоях.

— У нас восенню быў сур'ёзны канкурэнт, — гаворыць Максім Усцінавіч,— Мінская МТС, але яна цяпер адстала.

— Я так думаю,— дадаў парторг Туманаў. — Цяпер мінчане нас не абгоняць...

— Нельга-ж нам цяпер адставаць, калі вышыню заваявалі, — заўважае дырэктар і зноў расказвае пра тое, што ў зімовы час шмат зроблена сіламі МТС для жывёлагадоўчых ферм, каб замацаваць дасягнутыя поспехі ў вытворчасці малака і мяса.

Механізатары аднак не забываюць, што лёс ўраджаю залежыць ад усебаковай руплівай падрыхтоўкі да вясны. Кладзі гной густа — не будзе ў свірне пуста, — гэта старая, але справядлівая пагаворка не забыта механізатарамі. Яшчэ ўлетку, выкарыстоўваючы кожны пагодлівы дзень, на магутнай машыне-бульдозеры комсамолец Іван Несцяровіч са сваімі сябрамі нарыхтавалі сотні тысяч тон торфу. Цяпер гэты торф трактарысты на спецыяльных санях-валакушах вывозяць на палі, дзе яго калгаснікі перакладваюць гноем. У кожным калгасе створаны комсамольска-маладзёжныя групы, якія займаюцца прыгатаваннем торфагноевага кампосту. Калі едзеш па дарогах, што пралягаюць праз калгасы імя Молатава, імя Дзержынскага, «Савецкая Беларусь», можна бачыць доўгія штабялі торфу. Іх колькасць павялічваецца з кожным днём. Гэта справа рук маладых сельскіх працаўнікоў, яны не баяцца ні завірухі, ні марозаў, бо ведаюць, што іх праца, іх стараннасць акупяцца багатым ураджаем.

Сумеснымі, дружнымі намаганнямі калгаснікаў і механізатараў рыхтуецца гаспадарлівая сустрэча вясне. Характэрна, што рамонт інвентару, ачыстка насення ў калгасах і іншыя, здавалася-б, зусім не механізатарскія работы, выконваюцца з дапамогай і пры актыўным удзеле механізатараў. Адыходзяць у нябыт яшчэ нядаўнія адносіны працаўнікоў МТС да калгаснай гаспадаркі. Цяпер няма нічога дзіўнага ў тым, што трактарыст турбуецца, каб не толькі добра ўзараць глебу, але каб было добрае, гатункавае насенне, каб захоўвалася норма высеву, каб у брыгадзе хапала вупражы, былі добрыя і калёсы, і атосы... Ён-жа, трактарыст,—чалавек, які жыве з калгаснікамі-паляводамі ў адной брыгадзе, вырошчвае хлеб, які сам будзе есці. Адсюль кроўная зацікаўленасць, агульнае імкненне вырасціць лепшы ўраджай, выгадаваць выдатную пародзістую жывёлу, узняць усе галіны грамадскай гаспадаркі.

Мы былі не толькі на жывёлагадоўчых фермах, дзе механізатары, не зважаючы на марозы і сцюжу, арудуюць з малатком і ключом, робячы падвесныя да-



**Трактарысты Рыгор Масальскі і Іван Лобан рыхтуюць матор да абкаткі на стэндзе.**

Фото С. Чырэшкіна.

рогі, у кар'ерах, адкуль хлопцы-трактарысты тралююць на поле торф, ля свірнаў, дзе ўвесь дзень не змаўкае нястомны трыер, на лугах, дзе праклалі свае сляды магутныя кустарэзы... Мы не аднойчы наведвалі эмтээсаўскія майстэрні, дзе таксама кіпіць цяжкая, ударная работа.

Падрыхтоўка ўсёй тэхнікі да вясны, да выхаду ў поле — бадай самы адказны ўчастак, які займае пільную ўвагу ўсяго калектыву механізатараў. Рамонт трактараў, камбайнаў пачаты яшчэ з восені. Ужо к новаму, 1957 году поўнасцю адрамантавалі і агледзелі як мае быць усе свае машыны брыгадзіры Іван Будай і Змітро Скрабагаты. Поўным ходам тады ўжо рамантавалі тэхніку і іншыя брыгады.

— Між іншым, хоць рамонтныя работы ідуць нядрэнна, мы ў графік амаль укладаемся, — расказвае галоўны інжынер Павел Васільевіч Хоміч. — Але, трэба прызнацца, у гэтай справе нас ёсць за што крытыкаваць...

Павел Васільевіч прывычным жэстам рукі праводзіць па радкаватых, мяккіх валасах, на хвіліну задумваецца, жмурачы свае цёмныя, з хітрынкай вочы, а потым моўчкі працягвае надрукаваны на машынцы ліст паперы.

— Вось загад, падпісаны дырэктарам, — тлумачыць галоўны інжынер. — У ім дакладна сказана, колькі створана на рамонце вузлоў, вызначаны адказныя за іх працу, акрэслены абавязкі кожнага.

— А вузлавы метад у МТС не ў пашане!

— Так, працуе як мае быць пакуль толькі вузел разборкі, рамонту і збору асноўнага рухавіка. — Галоўны інжынер выпрабавальным позіркам свідруе карэспандэнтаў, нібы вагаецца, сказаць ці не, і, сумна ўздыхнуўшы, прадаўжае:

— Тут, бачыце, такая недарэчнасць атрымалася: я паехаў у Маскву на тэхнічную нараду, потым атрымаў адпачынак. І вось што вышла...

А вышла і сапраўды так, што рамонт пайшоў самацёкам. Праўда, дырэктар МТС на дні некалькі разоў забягаў у майстэрні. Бачачы, што трактары адзін за другім выходзяць на абкатку, ён са спакойным сумленнем займаўся іншымі справамі. А тым часам то адзін, то другі трактар варочаўся зноў у майстэрню пасля абкаткі; некаторыя машыны больш, чым трэба, стаялі разабранымі на рамонтнай пляцоўцы. Як відаць, усё гэта здарылася іменна таму, што рамонт быў арганізаваны па-старынцы: кожны трактарыст порхаўся ля сваёй машыны, і былі выпадкі, што некаторыя рамонтнікі, асабліва з моладзі, не маглі рады даць, збіраючы складаныя і цяжкія вузлы.

— Іншы раз у нас было, — расказвае адзін малады трактарыст, — як у таго няўдалага салдата, які вінтовачны затвор разбіраў: затвор гатоў, а дэталей засталося шмат.

Праз некалькі дзён, калі мы зноў сустрэліся з Паўлам Васільевічам, ён, ажыўлены і расчырванелы, павёў нас у майстэрню. Ідучы па пралёце, спыняўся то ля адной, то ля другой групы рабочых, што завіхаліся ля доўгіх зашмальцаваных сталоў, на якіх раскладзены дэталі, і задаволена гаварыў:

— Гэта вузел рамонту і зборкі каробкі перадач... Гэта вузел рамонту паліўнай апаратуры... А гэта наш стэнд для абкаткі матораў!..

Ля кожнага рабочага месца — плакаты з падрабязным апісаннем дэталей таго вузла, якім заняты рамонтнікі.

На светлай, прасторнай пляцоўцы ў майстэрні стаяла нешта з пяць ці болей трактараў — гусенічныя, калёсныя, два камбайны. Гэта машыны, якія рамантаваліся адразу, як кажуць, за адзін заезд.

Да нас далучыўся высокі, белавалосы хлопец у расхрыстанай, зашмальцаванай ватоўцы — Генадзі Зуеў. Хлопец ужо сталы, адслужыў у арміі, вучыцца завочна ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі і мае ў МТС не малую пасаду загадчыка майстэрні, «загалаўная фігура», але ўсе яго паранейшаму клічуць проста «Генка».

— Генка, выпішы напілак!

— Генка, паглядзі, нешта матор чыхае!

Гэты шустры непаседа Генка вельмі любіць тэхніку, працуе з душой і з'яўляецца першым памочнікам галоўнага інжынера ў арганізацыі працы механізатараў на рамонце. І не нарадуецца камсамолец Генка, што вузлавы метад, нарэшце, і ў іхняй Ждановіцкай МТС заняў пачэснае месца.

— Цяпер нам трэба тэхнічную вучобу арганізаваць, — гаворыць Генка Зуеў, звяртаючыся да галоўнага інжынера. — Вунь хлопцы хочуць новыя машыны вывучыць, набыць прафесіі. — Сабраўшы мужную складку над пераноссем, Генка бліснуў строгімі шэрымі вачыма:

— Я, як член камітэта камсамола, пастаўлю пытанне перад дырэкцыяй!..

Потым, калі зайшлі ў механічнае аддзяленне, Генка з дзіцячым захапленнем расказваў пра новыя станкі, якія ёсць у іхняй майстэрні, пра сваіх токараў-майстроў, што гаспадараць на ўсіх гэтых складаных машынах; шчыра хваліў ён і маладых трактарыстаў, якія нясуць увесь цяжар працы на рамонце.

З некаторымі з іх нам давялося пазнаёміцца ў той-жа дзень, вандруючы па пралётах эмтээсаўскай майстэрні. Ля сабранага, чыстага, нібы новага, ДТ-54, што заняў месца ля варот, заклапочана пахаджвалі двое: адзін высокі, рухавы, з блішчастымі чорнымі валасамі, якія ганарыста выбіваліся з-пад шапкі, другі — паволны ў рухах, камлюкаваты, з вялікімі блакітнымі вачыма. Першы — брыгадзір адной з трактарных брыгад камсамолец Сяргей Бабаеў, другі — трактарыст Іван Лобан.

— А дзе-ж Рыгор?

— Я тут, — пачуўся з-пад машыны вясёлы, зычны голас.

— Выйдзі, пакажыся, братка! — гукнуў Зуеў і зараз-жа пасуровеў, акінуў хуткім позіркам хлопцаў, а потым мацаў вачыма бліскучыя бакі трактара:

— Што з ім?..

— Ды нічога сур'ёзнага, — вылез з-пад машыны той, каго клікалі Рыгорам, выцер рабром далоні спацелы твар. — Крыху траціць — напэўна, поршні не замацавалі як мае быць.

— Вазьміце яшчэ на стэнд матор, пракруціце раз-другі, — раіць хлопцам Генка і збіраецца ўжо ісці. Але раптам, нібы штосьці ўспомніўшы, спыняецца, паказвае на Рыгора і з цеплынёй і шчырасцю гаворыць:

— Гэта наш лепшы трактарыст Рыгор Масальскі. Разам з Лобанам машыну наглянцавалі, што ззяе, як новенькая!

Рыгор Масальскі адзін з тых маладых механізатараў, што селі за руль адразу пасля школы. Павучыўшыся на шасцімесячных курсах у Смілавічах, Рыгор трапіў напарнікам да свайго айчыма Івана Лобана, які ўсяго на дванаццаць год старэйшы за пасынка. Спачатку ў іх справы не ладзіліся, і ўсё больш з-за Рыгора, які не надта прыслухоўваўся да парад свайго настаўніка-айчыма.

— Разбяруся як-небудзь сам, — часта гаварыў Рыгор айчыму, калі той імкнуўся параіць яму штонебудзь.

Між тым, на першым часе Рыгор станавіўся ў тупік пры самых, як на цяперашні розум, нязначных капрызах машыны. І толькі потым, калі добра папалазіў пад чэрава трактара, Рыгор памякчэў, забыў пра тое, што Лобан — не родны бацька, і пачаў часцей да яго звяртацца, прыглядацца да яго практычнага вопыту. І непрыкметна ўляглася тая непрыязнь, што таілася недзе ў глыбіні рыгоравага сэрца. Хоць і цяпер Рыгор на Лобана гаворыць завочы «дзядзька Іван», але гэта не перашкаджае ім працаваць дружна і зладжана. Улетку Рыгор крыху абагнаў свайго старшага трактарыста, але, як відаць, айчым на свайго пасынка не крыўдуе. На рамонце яны працуюць старанна, шчыра. Збоку паглядзіш на іх — арлы, абодва маладыя, дужыя, плячыстыя, як браты.

Калі потым мы бліжэй пазнаёміліся з Рыгорам Масальскім — добрадушным, кражыстым хлопцам з прыгожым, валявым тварам, — то ўпэўніліся, што іменна такія, як ён, як яго айчым Іван Лобан, не спалохаюцца зімовых завірух і непагадзі, яны смела павядуць сваіх сталёвых коней на штурм крэпасці, імя якой — ураджай. У гэтым мы яшчэ раз пераканаліся, калі спыталі ў хлопца, што ён думае рабіць, закончыўшы рамонт тэхнікі.

— Будзем торф вазіць, угнаені на поле, — не вагаючыся, адказаў на наша пытанне Рыгор.

Простыя, працавітыя, з адкрытай душой хлопцы-механізатары ў Ждановіцкай МТС. Пра ўсіх іх немагчыма расказаць у кароткім нарысе. Усе яны вартыя пахвалы. Гутарачы з імі, забываеш, што яшчэ зіма, што халодны вецер гуляе па заснежаных палетках, перамятае дарогі. Глядзіш, як трактары адзін за другім становяцца ў калону, і яскрава адчуваеш цёплае дыханне недалёкай вясны.

**Ждановіцкая МТС Мінскай вобласці.**



**Перадавыя ільнаводы калгаса «Чырвоны пуцілавец» Старобінскага раёна комсамолкі Нэла Пляшко і Тася Малахай.**

Фото С. Чырэшкіна.



**Работніца грэбнечасальнага цэха Мінскага камвольнага камбіната комсамолка Анна Варапай. Участак, на якім яна працуе, сістэматычна перавышае вытворчыя заданні.**
Фото А. Дзітлава.

# ДВА СТУДЭНТЫ

**Іван НАУМЕНКА**

**5 верасня 1956 г.**

**Здароў, Кузьма!**

Такім чынам мы маем, як гаварыў твой любімы Мітрафан Піліпавіч, новы якасны стан. Я — студэнт другога курса. Сёння гэтая ісціна засведчана гербавай пячаткай у маёй заліковай кніжцы, або, калі гаварыць па-навуковаму, у матрыкуле.

А заўтра, братка Кузьма, мы едзем змагацца за бульбу. На цэлы месяц. У той самы калгас, што і летась, — у «Кастрычніцкую рэвалюцыю». Прыгожыя там, браток ты мой, мясціны. Узгоркі, апавітыя першай асенняй смугою, пералескі, Мінскае возера побач. Дыхай і набірайся, як кажуць, здароўя. Але ў нашых Палыкавічах, вядома, лепш і прыгажэй. Для мяне паездка на бульбу мае прынцыпова станоўчае значэнне. Сэканоміцца, папершае, стыпендыя — цэлых дзвесце дзевяноста два рублі. Ты не смейся, для мяне такія грошы — цэлы капітал. Па-другое, наогул, мне здаецца, карысна яшчэ адзін цёплы асенні месяц павандраваць, паварушыць мускуламі перад васьмю месяцамі суцэльнай мазгавой работы.

Вядома, ёсць і свае мінусы ў гэтай паездцы. Шкада, браце, чаравік — парвуцца. Але ўсётакі, плюсаў на бульбе болей, чым мінусаў. Для чаравік куплю цэлых дзве каробкі гуталіну — не дам іх у крыўду ні перад якімі лужамі.

Паведамляю табе, сябра мой Кузьма, яшчэ адну радасную навіну. Далі мне месца ў інтэрнацкім пакоі. Будзем жыць учатырох — і ўсе, браце, будучыя педагогі, і ўсе вучымся разам. Хлопцы добрыя, толькі Вадзім Пераход, пра якога я табе ўжо расказваў, задзірае, па-мойму, нос. Але, як той казаў, пабачым...

Пакінуў я, такім чынам, назаўсёды сваю зялёную Грушаўскую вуліцу і сваю незабыўную бабульку Пелагею Ягораўну. Добрая была душа ў маёй гаспадыні. Тыя сто рублёў, што плаціла ёй за маё кватараванне наша бухгалтэрыя, яна-ж на мяне і выдаткоўвала, ды яшчэ прыкладвала свайго. Два сыны ў яе загінулі ў вайну. Адзін быў лётчыкам-маёрам. Буду хадзіць калоць ёй дровы, і то весялей будзе чалавеку.

На гэтым бывай, мой славуты будучы канструктар. Я тут расхваліўся перад табой, аж самому сорамна. Я-ж заўсёды лічыў цябе залатой галавой, а сябе толькі бледным тваім ценем. Проста не разумею, як маглі цябе не прыняць у інстытут. Атрымаў чацвёркі па рускаму сачыненню і замежнай мовы. Ну дык што! Не двойкі-ж табе паставілі. Не разумеюць яшчэ ў нас, што гэта азначае закончыць школу рабочай моладзі. Ты, па-мойму, на гэты раз проста спасаваў перад ачкастай камісіяй. Яна ў чатыры вокі глядзела і прагледзела такога Н'ютона. Расказаў-бы ты ім пра сваё матавіла, што паставіў на камбайне. Пасароміўся ты, брат, дарэмна. Хваліцца сорамна толькі крадзеным.

Але нічога — не паступіў сёлета, паступіш у будучым годзе. Цісну тваю шурпатую механізатарскую руку.

Галя, пра якую я табе расказваў, таксама едзе на бульбу. Слаўная яна, брат, дзяўчына. Паклон усім нашым. Твой Пятрусь Бярозка.

**28 верасня.**

**Шанаванне табе, самапаглыблены канструктар!**

Прывезлі хлопцы з інтэрната твой ліст і твой перавод на пяцьдзесят рублёў. Навошта ты прысылаеш грошы, Кузьма? Мне яны тут абсалютна не патрэбны — кормяць нас, як на дзяды. Не рабі толькі высокароднай міны на твары, усе крэдыты я запісваю ў блакнот з чорнай вокладкай. Твае грошы будуць звернуты табе з пэўным працэнтам гадавых, як злоснаму ліхвяру і капіталаўкладальніку. Я-ж закончу навуку раней за цябе. Дарагі мой аднакашнік, Кузька! Тут, на бульбе, шырэй раскрываюцца мае студэнцкія вочы. Ці паверыш ты, што сярод слаўнага нашага студэнцтва ёсць самыя звычайныя лайдакі і абібокі. Баяцца, браце, чорнай работы, як чорт ладану. Па-першае, некаторыя перад самай бульбай тэрмінова захварэлі, карацей кажучы, узброіліся рознымі медыцынскімі даведкамі. І хто толькі дае ім гэтыя даведкі?

Па-другое, не ўсе тыя, што прыехалі ў калгас, хочуць працаваць. Туляюцца ад работы, як сабакі ад мух. А каб ты паглядзеў, як некаторыя нашы дзяўчаты выбіраюць бульбу. Бяруць бульбіну, як нейкую жабу: асцярожненька, двума пальчыкамі. А гэта-ж будучыя настаўніцы, яны-ж паедуць у вёску. Не дай божа ажаніцца ні мне, ні табе, Кузька, на такой «далікатнай» дзяўчыне. Калі зробім такую памылку, то або памрэм з голаду, або к сарака гадам атрымаем па самай поўнацэннай язве страўніка. Такія дзяўчаты, па-мойму, да прыезду ў вёску лічылі, што булкі растуць на дрэвах.

Вядома, не ўсе так працуюць. Большая палавіна нашых робіць як трэба.

Тут, на бульбе, раскрыўся перада мной наш Вадзім. Калі гэта праўда, што сапраўдны таварыш пазнаецца ў бядзе, то гэты Вадзім дрэнь і паскуднік. Быў такі выпадак.

Адна наша дзяўчына наверадзіла руку і на пальцах у яе паявілася вавчанка. Гэта — небяспечная хвароба. Прывезлі ўрача, і ён узяўся дзяўчыну лячыць. Але ў мясцовай аптэцы не было нейкай дэфіцытнай мазі, трэба было ехаць аж у Мінск. Гэтую мазь к заўтрашняй раніцы ўзяўся прывезці Вадзім.— Ён папрасіўся ў горад, і думаеш, прывёз? Прыехаў праз два дні, а на мазь забыўся. А ў дзяўчыны з-за гэтага на ўсё жыццё застаўся нерухомы мізінец.

Да гэтага Вадзіма прыязджаў бацька, нейкім трэстам кіруе. Пёр на «Пабедзе» кіламетраў дзвесце. Дык, ведаеш, да чаго дадумаўся гэты кіраўнік? Перавёў свайго сынка на асобную кватэру, на малако і смятану да нейкай торбахваткі.

Вось якія справы, дарагі Кузя.

А бульба ў калгасе добрая, на дзіва. Каб толькі ўправіцца да марозаў. Галя капае бульбу ў суседнім калгасе. Добра капае, яна не «далікатная». Прывітанне нашым. Твой Пятрусь.

**16 кастрычніка.**

**Прывет табе, наш будучы Архімед!**

А ў нас лекцыі, лекцыі, лекцыі. Не паступай у інстытут, Кузьма, далібог лепш працаваць трактарыстам. Сядзі сабе за рулём і пасвіствай. Ні табе семінараў, ні калёквіумаў, ні залікаў ніякіх. Вольны, як вецер... Між іншым, я цябе толькі палохаю, Кузьма. Не бойся лекцый. У нас іх многія не баяцца. Накуплялі розных чамаданчыкаў, паставяць іх на сталы і хаваюцца за імі, як за барыкадамі. Робяць, што хочуць, толькі не вучацца. Той самы Вадзім і яшчэ адзін абібок ужо трэці дзень рэжуцца на лекцыях у «балду».

Павінен табе сказаць, што і выкладчыкі ў гэтым вінаватыя. Адзін чытае — заслухаешся, забываеш, што на лекцыі, а другі — ўваткнецца ў канспект і «бу-бу-бу...» Аж павекі зліпаюцца. А наогул, кожная лекцыя, я лічу, карысная. Навука — гэта ўсё-такі не вясёлая аперэта.

Але ў нас завяліся ўжо крытыканы. «Даёш свабоднае наведванне лекцый!»... Уяўляю сабе, як-бы ўзрадаваўся наш Вадзім, калі-б зусім не трэба было хадзіць на лекцыі. Ён, праўда, і цяпер не вельмі ходзіць. Як у той песні: «Калі прыдзе, калі не».

І ведаеш, прыцярпеліся ў нас к такім, як Вадзім. Лічаць усё гэта ў парадку рэчаў. Я проста знялюбіў гэтага тыпа. У пакой не хочацца прыходзіць з-за яго. Жывуць са мной яшчэ Віктар Гармаш і Алег Пратасевіч. Мы з Віктарам іншы раз збіваем рогі гэтаму краснабаю. Алег-жа трымаецца пазіцыі неўмяшання. Не хоча псаваць добрых адносін з аднакурснікам.

Учора здарылася вось што. Мы з Віктарам прышлі з бібліятэкі позна. Хацелі выспацца, бо займаемся цяпер многа. Адчынілі дзверы, а ў пакоі ў нас стаўпатварэнне вавілонскае. На стале — батарэя бутэлек. За сталом — вадзімава акружэнне, нават дзве дзяўчыны. Аказваецца, у нашым пакоі ідзе гулянка. Прапанавалі і нам з Віктарам выпіць па шклянцы.

Мы, вядома, ад гарэлкі адмовіліся. Бывай, мой сябра. Я цяпер аж зялёны ад злосці. Пятрусь Бярозка.

**4 лістапада.**

**Няхай жыве наша з табой дружба, Кузьма!**

Было пасяджэнне камітэта камсамола. Вадзім выбавіўся з бяды лёгкім перапалохам — яго папярэдзілі. Шанцуе гэтаму губашлёпу. Мне няма часу, Кузьма. Бярэм шэфства над культурнай работай аднаго заводскага клуба. Будзем арганізоўваць самадзейнасць. Кульні за наш поспех чарку на Кастрычніка.

Не падкалвай наконт амураў. З Галяй у нас проста добрая дружба. Яна медычка, вучыцца аж на трэцім курсе. Пятрусь.

**29 лістапада.**

**Кузьма!**

Не прысылай мне грошай. З мяне хопіць сваіх. Ведаю-ж, які ты мільёншчык. Шмат займаюся, аж галава трашчыць. А ў інтэрнаце танцы і танцы. Проста нейкая пошасць пайшла. Займацца ў пакоі нельга. Затое Вадзім задаволены. І, ведаеш, дзяўчатам ён падабаецца. Хоць не ўсім. Галя сказала, што ён нейкі слізкі. Што ты думаеш на гэты конт, дзед, а?

Высылаю табе дзве таўсценныя кніжкі пра трактары. Толькі што паявіліся. Пятрусь.

**14 снежня.**

**Добры дзень, Кузьма!**

Здарылася нешта вельмі непрыемнае, чаго са мной не было ніколі ў жыцці. І ўсё з-за гэтага праклятага Вадзіма. Да мяне пазаўчора вечарам зайшла Галя. На лекцыі я не хадзіў, страшэнна балела галава. Мы сядзелі і размаўлялі. Раптам перагарэла лямпачка. У гэтую хвіліну ўварваўся Вадзім і, захіхікаўшы, выбег з пакоя. На калідоры ён плявузгаў нешта брыдкае пра мяне і пра Галю хлопцам. Я выйшаў услед за ім і, не стрымаўшыся, ударыў яго па мордзе. Днямі будуць разбіраць маю справу на камсамольскім сходзе. Галоўнае, Кузьма, я не хачу, каб скланялі галіна імя. Я не скажу пра яе ні слова. Мне за мой учынак, мабыць, уляціць. Але з Вадзімам мы яшчэ паваюем. Я ўсё-ж раскрыю яго слізкае нутро. Выпруць калі-небудзь гэтага слімака з інстытута. Будзь здароў, Кузька. Твой П. Бярозка.

# Па лясных сцежках

Ф. ВАЎЧОК





Ноч. У рэдкіх воблаках час-ад-часу хаваецца ражок маладога месяца; блішчаць яркія зоркі Поўночнай Мядзведзіцы, па роўнай снежнай цаліне рухаюцца дзве цёмныя плямы, мітусяцца, паблісkваюць дзве пары жаўтаватых агеньчыкаў. Гэта воўк і ваўчыха. Звяры бягуць адзін за другім: наперадзе воўк, ззаду — ваўчыха.

Раптам ваўкі спыніліся і пачалі нюхаць снег. Смачна запахла зайцам. Тут нядаўна прабег русак. Слядоў не відаць, але звяры па паху вызначылі напрамак касога і кінуліся за ім.

Нечакана з-пад кусціка ўсхапіўся заяц і, прыклаўшы да спіны доўгія вушы, як птушка, паімчаўся полем. Ваўкі рванулі следам. Хутка-хутка мільгаюць разоры, палеткі. У вушах свішча вецер. Мінута... другая... трэцяя... Усё бліжэй русак, усё хутчэй імчацца ваўкі. Іх доўгія цёмныя целы аж сцелюцца па снезе.

Спераду паказалася рэчка. Ваўчыха, не змяншаючы хуткасці, павярнула нелева. Воўк вось-вось дагоніць касога, учэпіцца ў заечы карак. Драпежнік ужо раскрыў пашчу... намог усе сілы. Раптам пяціметровы скачок улева, і заяц паімчаўся берагам ракі, а воўк з усяго разбегу плюхнуўся ў ледзяную ваду. Цяжка фыркаючы, драпежнік выплыў, страсянуўся, стараючыся не адстаць ад ахвяры.

Ваўчыха залегла каля ракі, спадзеючыся, што заяц павінен павярнуць у гэты бок. І сапраўды, касы, так спрытна ашукаўшы ваўка, бег проста на яе. Ваўчыха прылегла за кустом алешыны і, паклаўшы цёмнашэрую галаву на тоўстыя лапы, нервова падалася наперад. Заяц усё бліжэй і бліжэй. Вось-вось ён параўняецца з кусцікам. Ваўчыха шчыльней прытулілася да зямлі. На спіне поўсць паднялася дыбам, сутарга прабегла па ўсім целе. Адзін момант... Скачок! Русак, збіты з ног, слаба запішчаў.

Праз поўмінуты прыбег воўк, а яшчэ праз поўмінуты на снезе засталася ад зайца крывавая пляма ды пучкі светлашэрай поўсці. Драпежнікі палізалі акрываўлены снег, пераплылі раку. Зноў мільгаюць разоры, загоны, палеткі... За гэтую ноч ваўкі прабеглі больш сотні кіламетраў: спяшаліся да свайго леташняга логава.

Надыходзіла вясна.

...Пад вываратнем дрэва, пад маладой ёлкай, зямля выкапана на поўметра. Вакол шмат леташняга лісця, сухой бурай травы. Імі можна выслаць дно берлагу. Ваўкі ўзяліся рыхтаваць сабе пасцель. Працавалі нядоўга. Ваўчыха, патаптаўшыся на прыгатаванай пасцелі, легла на жывот, выцягнула ўперад тоўстыя пярэднія лапы і заплюшчыла вочы. Воўк падыйшоў да яе, злёгку стукнуў лапай па галаве, нібы хацеў сказаць: «Пара на паляванне!» Ваўчыха расплюшчыла вочы, вільнула хвастом і пазяхнула. Драпежнік зразумеў гэтую нямую мову: яму на паляванне прыдзецца ісці аднаму. Ён яшчэ раз паглядзеў на ваўчыху і лянівым крокам крануўся з месца, а потым хутка перайшоў на лёгкі алюр.

Усю ноч блукаў воўк, а здабычы ніякай. Перад світаннем у хмызняку нешта зашамацела. Драпежнік кінуўся на шум. Пад нахіленай рабінай яшчэ цёплая лёжка пахла казуляй. Воўк кінуўся па следу. Застукалі зубы, яшчэ больш падцягнула парожні жывот. Усе сілы намагае казуля, але драпежнік усё бліжэй і бліжэй. Перапалоханая казуля з усяго размаху налецела на паваленае дрэва, хруснула пераломаная ножка, і казуля, перакінуўшыся разы чатыры праз галаву, звалілася на зямлю. Маланкай падляцеў драпежнік, вострыя клыкі рванулі горла непрытомнай ахвяры.

Трывожна і чутка спала ваўчыха. Пры незнаёмым гуку яна ўздрыгвала, падымала галаву з шырокімі стаячымі вушамі, прыслухоўвалася доўга і падазрона. Па ўсім целе прабягала лёгкае дрыжэнне, на спіне поўсць падымалася дыбам. Але шум заціхаў, і ваўчыха супакойвалася.

А ноччу нарадзілася сямёра галаваcтых, але глухіх і сляпых шэрых ваўчанят на тоненькіх кволых ножках. Падымаючы ўверх галоўкі, навароджаныя слаба пішчалі, поўзалі, нібы шчаняты ці кацяняты, адно па другім. Маці клапатліва іх вылізвала, саграваля і абсушвала цеплынёй свайго цела. Ад болю і голаду яна аслабла, прытупіўся зрок і чуццё. Ёй здавалася, што за кожным кустом стаіць паляўнічы і са стрэльбы цэліцца ў яе шырокі лоб. Тады хацелася ўсхапіцца, кінуцца ў лес, але слабасць адолвала ваўчыху. Ваўчаняты спалі мала і ўвесь час таўклі галоўкамі ў галодны жывот.

Толькі раніцай з'явіўся воўк. Па яго тоўстаму жывату ваўчыха здагадалася, што паляванне ўдалося. Звер падбег да ваўчыхі і, убачыўшы дзяцей, узрушана завішчэў. Тая не зводзіла з яго дапытлівага позірку. Воўк зразумеў і, памахаўшы хвастом, адыйшоўся два крокі ад логава, нахіліў да зямлі галаву, падцягнуў жывот. Горла і жывот здавілі сутаргавыя спазмы, і на ўтаптаную пляцоўку звер адрыгнуў каля васьмі кілаграмаў мяса з'едзенай казулі. Прабуджаныя ваўчаняты слаба запішчалі. Пад'еўшы, ваўчыха лягла на ранейшае месца. Звяркі, адчуўшы цеплыню мацярынскага жывата, зноў заснулі. Стомлены воўк лёг кроках у пяці ад іх.



Праз тыдзень ваўчаняты пачалі чуць, а праз два ў іх прарэзаліся вочкі. Звяркі раслі, дужэлі, вучыліся бегаць.

...Рассунуліся кусты, і да логава выйшаў воўк. Звяркі завілялі хвосцікамі і кінуліся насустрач, акружылі яго, заглядвалі ў вочы і жаласным піскам прасілі есці. Воўк неахвотна адказваў на іх пяшчоты; не жадаючы накарміць дзяцей, ён адыйшоўся ўбок і лёг. Ваўчыха пільна паглядзела на яго. Ён ведаў, што гэты позірк загадвае яму накарміць дзяцей. Драпежнік вінавата замахаў хвастом, але з месца не крануўся. Вочы ваўчыхі злосныя, патрабавальныя. Звяркі змоўклі, збіліся ў кучу. Воўк нехаця ўстаў. Секунда... другая... Ваўчыха ў два скачкі апынулася каля ваўка, збіла яго з ног, балюча грызнуўшы за спіну. Воўк завішчэў, усхапіўс і... амаль усё мяса, з'едзенае нядаўна, ляжала на ўтаптанай пляцоўцы.

Ваўчаняты накінуліся на ежу. Елі хутка. Ваўчанё з крывой ножкай ніяк не магло падступіцца: яго адпіхалі, кусалі, збівалі з ног. Астаткі мяса падабрала ваўчыха. Пакормленыя звяркі зноў пачалі гульню, але раптам заціхлі і ўставіліся на маці, якая не спускала вачэй з крывога ваўчаняці. Звярок, круцячы хвосцікам жаласліва пішчаў, аглядваўся па баках. Ён, мусіць, здагадваўся, што азначае гэты позірк. Ваўчыха падалася ўперад, на спіне поўсць паднялася дыбам. Адзін момант... і шэсць ваўчанят накінуліся на свайго брата. Крывое ваўчаня, якое, каб і вырасла, не змагло-б пракарміць сябе і сваё патомства, па няпісанаму воўчаму закону павінна загінуць раней, чым вырасце. Воўк усё гэта бачыў, але нават не падняўся на ногі. У час выхавання дзяцей ён поўнасцю падпарадкоўваецца ваўчысе.

Ідучы на паляванне, мацёрыя ваўкі пакідаюць падрослых ваўчанят адных. Вось і цяпер яны прачнуліся, а бацькоў няма. Звяркі шукаюць іх пад ствалом упаўшага дрэва, заглядваюць у кусты. Дарэмна. Малыя гуляюць асцярожна, прыслухоўваюцца да навакольных гукаў. Утаптаная пляцоўка вакол логава густа пакрыта касцямі звяроў, крыллямі і пер'ем птушак.

У глыбіні лесу нешта зашамацела. Звяркі насцярожыліся, рыхтуючыся ў кожную секунду кінуцца наўцёкі. З-за дрэў паказаліся бацькі. Ваўчаняты паімчаліся насустрач і раптам адступіліся. У зубах ваўка варушыўся жывы заяц.



Воўк паклаў здабычу на зямлю. Касы паспрабаваў уцякаць, але тут-жа яго абляпілі шасцёра звяркоў.

Праз поўгадзіны вывадак крочыў да вадапою. Ад берлагу звяры ішлі адзін за другім, потым, каб не натоптваць сцежак, разышліся па ўсім лесе. Ваду пілі доўга, па-сабачы, языкамі. Сёння-ж ваўчаняты ўпершыню разам з мацёрымі ваўкамі пакінулі логава. Зверкі ўзрушана бегалі вакол дрэў, ганяліся за ўзлятаўшымі на лясных палянах птушкамі, матылькамі. Па лесе блукалі астатак дня і ўсю ноч, а на світанні вярнуліся ў сваё логава.

Канец верасня. У лесе па-асенняму ціха. Заходзячае сонца залоціць ападаючае лісце. Ціха і каля воўчага берлагу. Маладыя звяры, прытуліўшыся да маці, спяць моцным сном. Дрэмле і ваўчыха. Стары воўк нецярпліва варочаецца на сваім месцы: пара ісці на паляванне. Ваўчыха нібы не заўважае неспакою звера. Яна ўпэўнена, што без яе вывадак не асмеліцца пакінуць логава.

Вось яна паднялася, пазяхнула, пацягнулася. Вакол яе замітусіліся дзеці. Да логава падыйшлі чацвёра леташніх ваўчанят-пераяркаў, якія з восені жылі асобна, а на паляванне восенню вярталіся да сваіх бацькоў. Воўчы вывадак у зборы. Стары воўк падняў уверх лабастую галаву, завыў басам, працяжна і дзіка. Ён то паднімаў уверх галаву, то схіляў яе да самай зямлі. Ваўчыха выла больш прарэзліва, пераяркі — пісклівым брэхам, а маладыя ваўчаняты проста цяўкалі.

Доўгае і жудаснае выццё ўскалыхнула вячэрні лес. Ляснае рэха падхапіла, узмацніла гукі. Цесна да зямлі прытулілася перапалоханая казуля. Прабуджаны бяляк кінуўся прэч ад гэтага страшэннага месца. Дзікія свінні задралі ўгару запэцканыя ў зямлю лычы, таксама прыслухаліся. Адзінокі пешаход на мінуту прыпыніўся і, вызначыўшы па выццю напрамак воўчага логава, паскорыў крокі, спяшаючыся да вёскі. Усё жывое са страхам слухала выццё ваўкоў.

...Праз нізкаdespite кусцікі заблішчэлі жоўтыя агеньчыкі вёскі. Там лянiва брахалі сабакі, у хлявах рохкалі свінні, жавалі жвачку каровы, варушыліся авечкі. На такой вялікай адлегласці чалавек не пачуе ні аднаго гуку, а шэрыя драпежнікі чуюць кожны шолах.

Ваўкі разбіліся на дзве групы: з ваўчыхай засталося чатыры маладыя звяры, астатнія з ваўком пабеглі да вёскі з процілеглага боку. Ваўчыха імчала першай. Вушы настаўлены ўперад, шырокія рухомыя ноздры падазрона абнюхваюць паветра. Пахне свіннямі, авечкамі, людскім жыллём. Вось і бліжэйшыя хаты. Баязліва забрахаў сабака. Наперад вырвалася чацвёра ваўчанят. Бягуць хутка-хутка. Высокі плот... Скачок!.. Сабака яшчэ разы два брахнуў. Тупат... Віск... І зноў усё ціха.

Ваўчаняты пераскочылі плот, кінуліся да хлява, за ваўчыхай. Далёка назад ляціць зямля з-пад воўчых лап. Драпежнікі падграбаюцца ў хлеў. Вось у морду павеяла цёплым гноем, смачным пахам жывёлы. Карова зараўла, палезла на сцяну, цесна ў кучу збіліся авечкі, трывожна зарохкалі свінні, страшэнны шум паднялі на жэрдках куры. Яшчэ мінута... Ваўкі ў хляве. Скачок! І карова з пераравper горлам сутаргава забіла нагамі. Завішчэлі свінні, адна за другой падалі авечкі... Яшчэ мінута... і цёмныя воўчыя цені наблiжаліся да кустоў. Амаль у кожнага звера за плячыма ў зубах білася парасё, ягнё ці кура.

У вёсцы трывога. Мацней забрахалі сабакі. Пачуўся гулкі стрэл, заплакала жанчына. Агеньчыкі схаваліся за дрэвамі. Звяры запавольвалі бег, нарэшце зусім спыніліся. А праз некалькі мінут ваўкі дапалі да вады, пілі доўга і прагна. На ўсходзе сонца тут-жа палеглі і праспалі ўвесь дзень.

Ужо некалькі дзён не вярталіся на логава звяры. Кожную ноч яны робяць усё большыя і большыя пераходы. А калі наступіла сапраўдная зіма, драпежнікі зусім пакінулі логава. Ды што карысці прытрымлівацца яго? У полі, вакол вёсак, можна пажывіцца, забраўшыся ў хлеў, ашукаць і злавіць сабаку, дагнаць хуткага зайца ці лісу.



Шостыя суткі не сціхае мяцеліца. Замецены сцежкі, дарожкі, на вуліцах вёскі навеяны вялікія гурбы снегу. Звяры, правальваючыся па вушы ў снег, спусціліся на дно рова, дзе раслі маленькія лазовыя кусцікі.

Трое звяроў пайшлі шукаць здабычы, астатнія разграблі ў снезе ямкі, ляглі пад кусцікамі, цесна прытуліўшыся адзін да другога. Зверху іх хутка завеяў снег. Зімняя ноч доўгая-доўгая. Звяры некалькі разоў прачыналіся, але ўсё не світала.

Пад раніцу непагода ўляглася, выглянулі дрыжачыя ад марозу зоркі. Ваўкі падняліся, стрэслі снег. Раптам вецер данёс пах чалавека. Дыбам паднялася поўсць на спінах звяроў, сутаргава застукалі зубы. Ваўкі выскачылі з рова. У далечыні чарнеўся сілуэт пешахода. Мінута — кілометр, другая — два кілометры. Чалавек азірнуўся, страшна закрычаў, пабег, спаткнуўся, упаў.

— Прапаў... з'ядуць... — маланкай мільганула думка. — А вунь дрэва! Хутчэй, хутчэй!

Чалавек падняўся і пабег з усёй сілы. Да дрэва дваццаць крокаў... дзесяць... пяць... Вось і ваўкі... Стукаюць зубы...

— А-а-а-а! Чалавек намог апошнія сілы, схапіўся за сук, падцягнуўся. У гэты момант пярэдні воўк рвануў ззаду за паліто. Затрашчала сукно. Пешаход ледзь утрымаўся на дрэве.

— Ы-ых! — выдыхнуў ён, падцягваючыся на вышэйшы сук. З твару градам каціўся халодны пот.

Звяры акружылі дрэва. Пагрозліва стукаюць зубы, блішчаць воўчыя вочы. Вось адзін з ваўкоў паспрабаваў узлезці на дрэва.

— Можа сапраўды ўзлезе?

Воўк зачапіў кіпцюрамі за кару, пралез на поўметра ўверх, лапы яго аслаблі і ён зваліўся ў снег. Спрабавалі і другія, але дарэмна. Тады драпежнікі разлегліся вакол дрэва, чакаючы, калі зверху зваліцца чалавек.

Марудна і пакутліва цягнецца гадзіна за гадзінай. Чалавек асцярожна, каб не зваліцца, варушыць змерзлымі рукамі і нагамі, пільна ўглядаецца на засыпаную снегам дарогу, ці не пакажуцца людзі.

Ужо халоднае зімовае сонейка павісла над снежнай раўнінай, а дарога па-ранейшаму бязлюдная. Чалавека апанавалі невясёлыя думкі: «Яшчэ дзве—тры гадзіны і не вытрымаю... змерзну». Ваўкі, здавалася, ляжалі спакойна, але варта было толькі паварушыцца, як у звяроў на спіне падымалася поўсць, злосна блішчэлі вочы, стукалі моцныя зубы. Прайшла яшчэ гадзіна, яшчэ і яшчэ.

Раптам звяры заварушыліся, трывожна паглядзелі ў бок дарогі. Чалавек азірнуўся, і сэрца яго радасна забілася: на дарозе паказалася каля дваццаці фурманак. «Сюды, сюды!» — слабеючым голасам закрычаў ён. У вачах расплыліся рознакаляровыя кругі, і непрытомны чалавек з абмарожаным тварам і нагамі зваліўся на рукі калгаснікаў.

Доўгім шэрым ланцугом бягуць дзевяць ваўкоў, след у след, адно вуха накіравана ўперад, другое — назад. Прайшло пяць дзён, як звяры ў апошні раз задавілі і з'елі дужага лася. Рэдкі звер вытрымае пяцідзённую галадоўку, а ваўкі нават не страцілі бадзёрасці бегу: дзве мінуты — кілометр.

У двух кілометрах ад вёскі да жывёльных могілак пралягла санная дарожка. Адтуль пахла коньмі, людзьмі. Туды заспяшаліся і драпежнікі. На снезе здалёк чарнее труп мёртвага каня. Секунда... другая... і вострыя воўчыя клыкі ўпіліся ў яшчэ не замёрзшага каня.

На трэцюю ноч увесь вывадак спяшаўся да жывёльных могілак, дзе яшчэ можна пажывіцца. Ціха. З неба сыплецца сняжок. Злёгку засыпана спажыва. Вось да яе засталося сто метраў, пяцьдзесят, дваццаць пяць, дваццаць...

Раптам... бах! бах!.. бах! бах!.. — адзін за другім грымнулі стрэлы, і на снег зваліліся чатыры ваўкі: ваўчыха і трое маладых. Астатнія звяры кінуліся назад: мінута — кілометр. Далёка за лесам засталася вёска, далёка засталіся забітыя звяры.

Ваўкі прыселі на заднія лапы і завылі. Жудаснае выццё разнеслася навокал, адбіваючыся аб пачарнелы лес.















Ліст з рэдакцыі

# Аб вершах Міхася Парахневіча

**Паважаны таварыш Парахневіч!**

Вы даслалі ў рэдакцыю часопіса «Маладосць» два дзесяткі сваіх вершаў — «У бібліятэцы», «На паляванні», «Дома», «Вось і адслужылі мы», «Суседка», «Маці», «У выходны дзень», «Брат», «Кветкі», «Перад пад'ёмам» і інш. Мы вельмі ўважліва прачыталі іх, але ніводнага з вершаў так і не змаглі адабраць для друку.

Вы валодаеце самой тэхнікай вершаскладання, адчуваеце рытм, можаце знайсці нядрэнную рыфму. Ёсць у Вашых вершах і нейкая пэўная думка, якая часам адсутнічае ў вершах некаторых пачынаючых паэтаў.

Але ў сваю чаргу, у Вашых вершах ёсць істотны недахоп, уласцівы для вершаў многіх маладых аўтараў, якія валодаюць тэхнікай вершаскладання.

У сваіх вершах Вы закранаеце важныя, надзённыя тэмы, а па-мастацку вырашыць іх не можаце. Вершы напісаны даволі гладка, правільна. Але яны не кранаюць, не хвалююць, нічога не кажуць ні сэрцу, ні розуму чытача. Атрымліваецца гэта таму, што Вы ў зарыфмаваных радках бясстрасна расказваеце аб тых ці іншых фактах або з'явах жыцця, расказваеце банальнымі, абязлічанымі словамі, якія не сагрэты Вашым гарачым пачуццём і пазбаўлены ўсялякага паэтычнага сэнсу. Шмат у вершах роўнадушнага апісання, мала цеплыні і паэтычнай узнёсласці. Там-жа, дзе Вы пазбягаеце гэтага бясстраснага апісання і спрабуеце сказаць нешта сваё, уласнае,— там адчуваецца шчырасць і непасрэднасць («У выходны дзень»).

Вы не імкнецеся знайсці які-небудзь свежы эпітэт ці параўнанне, а бярэце напракат збітыя, трафарэтныя азначэнні: «слаўныя майстры», «мірная вучоба», «шчодрая рука», «багатая засень». Мастацкі паказ Вы часта падмяняеце сухім, агульным пераказам. Вось верш «Сасна на Нёмане», дарэчы, чаму «на Нёмане», а не «над Нёманам» або «каля Нёмана»? Хіба-ж сасна расце на рацэ? У гэтым вершы Вы расказваеце пра сасну, пад якой калісьці Я. Колас «пісаў хвалюючыя вершы і навелы», з-пад якой «ён бачыў сонечнае ранне». Чым далей Вы прадаўжаеце гэты верш, тым больш па-агульнаму пачынаеце выказваць сваю думку:

Той час настаў, прасторы азарыў,  
Разліў праменні сонца па-над краем.  
Глядзі, як там, на былым пустыры,  
Да неба паднімаюцца ўраджаі.

У школу дзеці раніцой спяшаць,  
З палёў нясуцца песні звонка ў высі.  
Шчасліва жыць, вучыцца, працаваць —  
Паэта думкі светлыя збыліся.

Такімі-ж агульнымі радкамі Вы заканчваеце вершы: «У роднай школе», «Сябру», «Мой дом», «Вось і адслужылі мы».

У вершах «У Маскве», «Аб тваім партрэце», «Прывал», «Тапаля», «Шынель» Вы расказваеце пра тое, што ўжо добра знаёма чытачу, што ён не раз сустракаў у вершах іншых паэтаў. Вядома, ніхто не забараняе пісаць вершы аб тым, аб чым пісалі ўжо іншыя аўтары. Але пісаць такія вершы трэба па-свойму, каб сказаць у іх нешта новае, цікавае. У вершы «Шынель» Вы кажаце, што прайшлі з шынялём «дарог нямала пад пякучым сонцам і дажджом», што шынель укрываў вас, як коўдра, і, накрыты не адным снегападам, не губляў свой шэры колер. І заканчваецца верш радкамі: «Клапатліва ты, шынель, пашыты слаўнаю народнаю рукой». Вы выказалі тут вельмі правільную думку, але не сказалі ў вершы нічога новага, цікавага. А пра шынель-жа савецкімі паэтамі напісаны дзесяткі значна цікавейшых вершаў.

Як відаць, задумы Вашых вершаў не вынашаны ў сэрцы, не сагрэты гарачым пачуццём. Таму і вершы атрымаліся бясстрасныя, нецікавыя.

Няма ў іх свежых мастацкіх вобразаў і трапных паэтычных дэталей, трапляюцца няўдалыя радкі: «стыне жаль на хлопчыкавым твары», «не журбуй, будзь шчаслівай без меры, што спатканні далёка ад нас», «я спытаў незнаёмай», «туман густою, белай пудрай выпаўзае на лугі», «глядзіць за прахадной вароты», «на многа сталым быў у гэты час», «вакол нас шчыльна абступае з поглядам пытлівым дзетвара», дарэчы па-беларуску — не «пытлівы» погляд, а «дапытлівы» або «цікаўны».

Амаль адначасова з Вашымі вершамі рэдакцыя «Маладосці» атрымала вершы Ул. Паўлава. Некаторыя з іх друкуюцца ў гэтым нумары часопіса. Паўлаў Ваш аднагодак і творы яго таксама прысвечаны тэмам, якія закраналіся ў Вашых вершах. Пацікаўцеся, як па-свойму спрабуе ён вырашыць гэтыя тэмы.

З таварыскім прывітаннем

**М. АЎРАМЧЫК.**

# ГОСЦІ З ШАНХАЯ

Многім жыхарам Мінска і Гомеля пашанцавала ўбачыць спектаклі Шанхайскага тэатра пекінскай музычнай драмы. Выступленні гэтага выдатнага калектыву ў Беларусі былі часткай вялікай гастрольнай паездкі, якую зрабіў Шанхайскі тэатр па Совецкаму Саюзу.

Можна многа чытаць аб тэатральных традыцыях, якія жывуць на кітайскай сцэне тысячагоддзямі, але ніколі нельга завочна ўявіць сабе непаўторную выразнасць, характво і сапраўды казачную сілу акцёрскага майстэрства, якімі так багата надзелены калектыў Шанхайскага тэатра.

Нашы сябры назаўсёды пакінулі памяць аб сабе. У знак удзячнасці беларускага народа за новы ўклад у культурны абмен паміж Кітайскай Народнай Рэспублікай і Совецкім Саюзам Шанхайскі тэатр і кожны ўдзельнік гастроляў былі ўзнагароджаны Ганаровымі Граматамі Вярхоўнага Совета БССР. Ад'язджаючы, госці з Шанхая звярнуліся са шчырым прывітаннем да работнікаў культуры нашай рэспублікі.

На здымках: зверху ўніз — удзельнікі спектакляў «Дзяўчына і пастушок» і «У гарах Яньданшань».

Фото **А. ДЗІТЛАВА.**

*Вывучайце музыку!*

## Іспанскія і італьянскія танцы

Да вялікай групы іспанскіх народных танцаў, якія атрымалі значнае ўжыванне ў музыцы многіх народаў і напісаны ў двух- і трохдольных песенных формах (аб прымяненні гэтых музычных форм мы і гаварылі ва ўсіх нашых папярэдніх гутарках), адносяцца — **балеро, хота, сегедылля, хабанера** і **фанданга.**

**Балеро** стала вядома ў Еўропе ў другой палавіне XVIII стагоддзя, але па-сапраўднаму гэты танец пачаў выконвацца ў класічнай музыцы ўжо ў XIX стагоддзі. На яго аснове створаны такія цудоўныя вобразы рускай музыкі, як раманс Глінкі «О, дева чудная моя», раманс Даргамыжскага «Оделась туманами». Усеагульнай вядомасцю карыстаюцца «Балеро» для фартэпіяна Шапена і «Балеро» для сімфанічнага аркестра французскага кампазітара Равеля.

Выконваецца гэты парны народны танец і ва ўмераным і ў вельмі хуткім тэмпе. Размер балеро трохдольны, прычым рытм першай долі здрабнёны, г. зн. там не адзін гук, а некалькі. Танец суправаджаецца ўдарамі кастаньет (па-іспанску «каштанаў» — невялікага народнага ўдарнага інструмента, які ўяўляе сабою некалькі драўляных пласцінак, свабодна злучаных шнурам). Кастаньеты надзяваюць на пальцы і рытмічна паляскваюць пласцінамі ў такт музыцы. Блізкі да балеро і танец **хота,** таксама трохдольны, і **сегедылля,** рытм якой, як і рухі, вельмі рознастайны, свавольны, тэмп хуткі. Асаблівай папулярнасцю ў класічнай музыцы карыстаецца сегедылля з оперы «Кармен» французскага кампазітара Бізэ, якую выконвае галоўная гераіня.

Опера «Кармен» зрабіла папулярным і другі танец таксама двухдольнага размеру — **хабанеру,** з чоткім рытмам і ўмераны па хуткасці рухаў. Хабанера нарадзілася на востраве Куба. Блізка да яе стаіць танец **танго**, які ўзнік у Лацінскай Амерыцы.

Да групы ўмераных па рухах іспанскіх танцаў належыць таксама **фанданга** — танец трохдольны, сольны, які выконваецца ў суправаджэнні кастаньет.

Геніяльнымі прыкладамі выкарыстання іспанскай народнай музыкі ў рускай сімфанічнай музыцы з'яўляюцца «Іспанскія ўверцюры» Глінкі, дзе гучаць хота і дзве разнавіднасці сегедыллі, і «Іспанскае капрычыё» Рымскага-Корсакава, у канцы якога гучыць фанданга. Неабходна адзначыць і тое, што Глінка першым з сусветных класікаў музыкі «адкрыў» скарбы іспанскай народнай музыкі і заняўся яе апрацоўкай.

З існуючых італьянскіх народных танцаў больш за ўсё выкарыстана ў класічнай музыцы **тарантэла,** якая атрымала сваю назву ад горада Таранта, дзе ўзнік танец.

Тарантэла — імклівы хуткі танец, трохдольнага або шасцідольнага размеру. Каб адлюстраваць хуткасць тарантэлы, тэмпераментнасць выканання яго, старадаўняя легенда расказвае наступнае: калі каго-небудзь укусіць смяртэльна ядавітае насякомае — тарантул, дык для выратавання трэба некалькі разоў станцаваць тарантэлу і — уся атрута выйдзе сама, «выпарыцца».

Тарантэла знайшла бліскучае ўвасабленне ў творчасці Шапена, Ліста, Глінкі, Даргамыжскага, Танеева і асабліва Чайкоўскага, які на тэме гэтага танца пабудаваў фінал «Італьянскага капрычыё» для сімфанічнага аркестра.

Калі тарантэла — танец слізгаючых рухаў, дык **сальтарэла** (ад італьянскага «сальтарэ» — скакаць) мае іншы характар, характар падскокаў. Праўда, выконваецца ён з такой-жа хуткасцю і размерам такта, як і тарантэла.

На гэтым мы заканчваем даволі беглы агляд песенных форм з двух- і трохчастковым размерам у танцавальнай музыцы.

**І. НІСНЕВІЧ.**

# Хіба гэта політэхнізацыя?

**Ліст са школы**

У адзін з асенніх дзён на прасторным двары Уздзенскай сярэдняй школы пачуўся гул трактара. Гэта праслалі школьнікам падарунак шэфы з Пагранічнай МТС.

— Наш ветэран, — сказалі прадстаўнікі з МТС. — Гэтая машына мае слаўную гісторыю — шмат год папрацавала яна на калгасных палях. А цяпер мы аддаем яе ў падарунак школе, няхай вучні практыкуюцца...

На двары ля трактара заўсёды было людна, ажыўлена. Але хутка пайшлі бясконцыя дажджы, і ўсе забылі пра старога ветэрана: ён сіратліва стаяў пад асеннім небам. Потым знайшліся ахвотнікі, якія пачалі корпацца ў машыне, цягнуць розныя вінцікі і гайкі...

Ужо калі пачалася зіма і двор замяло снегам, уздумалі пра трактар, сяк-так яго разабралі, асноўныя блокі матора ўцягнулі ў клас, дзе вучні павінны займацца машыназнаўствам. Але як гэта ўсё зроблена!

Першае ўражанне, калі зойдзеш у клас, такое: здаецца, ты трапіў на пункт збору металалому. Дэталі навалены на нізкім, з негабляваных дошак століку. Побач, ля класнай дошкі, ляжыць блок матора — яго не зрушыш з месца, не гаворачы пра разбор на часткі для нагляднага вывучэння.

— Думалі зрабіць рухомы стэнд, — тлумачыць выкладчык машыназнаўства Анатоль Спірыдонавіч Жук, — але ў нас з гэтага нічога не атрымалася.

Школа вельмі мала робіць для ажыццяўлення праграмы політэхнічнага навучання, для прывіцця сваім пітомцам павагі да працы. Ніякіх сур'ёзных вытворчых навыкаў пры такім навучанні, вядома, атрымаць нельга.

Вучні V—VII класаў займаюцца ў сталярнай майстэрні. Яна размешчана ў невялікай, цеснай пуні. Абаграваецца гэтае памяшканне рэдка, сцены яго пакрыліся інеем. Тут цесна, няўтульна. На падлозе, на варштатах валяюцца стружкі, кавалкі дрэва — пакой, напэўна, ніколі не прыбіраецца.

Не дзіўна, што вучні ідуць сюды без ахвоты. Тыя дзве гадзіны, што адведзены праграмай на вытворчае навучанне, праходзяць сумна, нецікава.

У майстэрні ўсяго чатыры варштаты, а займацца адразу прыходзяць дваццаць пяць — трыццаць школьнікаў. Ля кожнага варштата — мітусня. Цесна. Ды і варштаты такія, што ледзь трымаюцца, яны зроблены абы з рук, нядобраякасна.

Інструментаў таксама нехапае. Няма нават звычайнага фуганка, малатка. Для заняткаў ёсць усяго 10 гэблікаў. Вучні вымушаны стаяць у чарзе, каб захапіць сабе які-небудзь інструмент.

Калі мы спыталі ў інструктара па сталярнай справе Анатоля Іосіфавіча Гарэльскага, чым-жа ён займаецца з вучнямі ў гэтыя дзве гадзіны, ён паціснуў плячыма і сумна адказаў:

— А што я адзін магу зрабіць? Вядома, што адзін — у полі не воін. Але ў школе — вялікі настаўніцкі калектыў, школьная камсамольская арганізацыя. Можна многае зрабіць сваімі школьнымі сіламі; можна і трэба прыцягнуць да ўдзелу ў гэтай важнай справе МТС, калгасы, райпромкамбінат. Варта толькі самім не сядзець, склаўшы рукі, і чакаць, як кажуць, з мора пагоды.

**І. СТАЛЯРОЎ.**





На здымках (зверху ўніз):
**А хіба можна займацца ў гэтай сталярні?**

**Так выглядае вучэбны клас машыназнаўства. Дэталі трактара валяюцца ў беспарадку.**

**Аўтамашыну «ГАЗ» кінулі на двары, тут яе і занесла снегам.**

Фото С. Чырэшкіна.






# Перадачы вядуць радыёаматары

У Гомелі на дахах дамоў паяўляецца ўсё больш Т-падобных тэлевізійных антэн. У гарадскіх магазінах павялічваецца попыт на тэлевізары.

Адкуль-жа ў Гомелі прымаюцца тэлевізійныя перадачы? Вядома, што прымаць тэлеперадачы можна магаса студыі, размешчанай ад пункта прыёму на адлегласці 50—100 км. Бліжэйшыя ад Гомеля гарады, якія маюць тэлецэнтры, — гэта Кіеў і Мінск. Але-ж да Кіева — каля 200 км, а да Мінска яшчэ далей.

І ўсё-ж гамельчане могуць глядзець вечарамі тэлеперадачы. Гэтую магчымасць далі ім радыёаматары, якія сваімі рукамі пабудавалі тэлевізійную станцыю.

Гэта было амаль чатыры гады таму назад. Група радыёаматараў дабілася прыёму ультракароткіх хваль Кіеўскага тэлецэнтра. У асобныя дні ўдавалася злавіць не толькі гук, але і атрымаць даволі ясны адбітак на экране. Асабліва выразны прыём бываў у вопытнага майстра радыёсправы Яўгенія Паўлавіча Кернажыцкага. Ён сканструяваў складаную антэну і ўзмацняльнае прыстасаванне, і тэлевізар працаваў нядрэнна.

Але Яўгенія Паўлавіча гэта не задавальняла. Ён шукаў магчымасцей прымаць тэлеперадачы ўстойліва, з найменшай колькасцю перашкод і без замірання радыёсігналаў.

Прайшло амаль 2 гады нястомных пошукаў, няспынных эксперыментаў. Радыёаматары прыйшлі да думкі стварыць рэтрансляцыйную станцыю. Гэта быў адзіны шлях зрабіць тэлебачанне даступным усім гамельчанам.

Але ажыццявіць такую задачу было не так проста. Дзе-ж дастаць для гэтага сродкі, дэталі, абсталяванне?

Вырашылі звярнуцца за дапамогай у гарадскі Савет. Яўгеній Паўлавіч Кернажыцкі — дэпутат горсовета, і гэтая справа была даручана яму.

На чарговай сесіі горсовета Яўгеній Паўлавіч зрабіў прапанову аб пабудове ў Гомелі рэтрансляцыйнай станцыі. Дэлегаты горача падтрымалі радыёаматараў. Была створана ініцыятыўная камісія, якая адразу ўзялася за справу.

Каб паскорыць будаўніцтва тэлецэнтра, вырашылі неабходную апаратуру вырабляць асобнымі блокамі на розных прадпрыемствах горада. Самыя складаныя дэталі выраблялся там, дзе працуюць найбольш кваліфікаваныя радыёаматары. Асабліва многа папрацавалі старшы тэхнік Гомельскага радыёвузла В. Калінін, тэхнік лабараторыі сувязі Беларускай чыгункі Т. Марозаў, інжынер вузла сувязі рачнога параходства І. Борах і тэхнік гэтага-ж вузла В. Афанасьеў. Вечарамі і ў выхадныя дні яны збіралі і мантыравалі апаратуру.

І вось тэлевізійны аматарскі цэнтр гатовы. У двух невялікіх пакоях Палаца культуры чыгуначнікаў імя Леніна сабрана і наладжана ўся апаратура. Пачаліся першыя пробныя перадачы па рэтрансляцыі Кіева.

Аднак радыёаматары на гэтым не супакоіліся. Яны вырашылі давесці справу да канца — пабудаваць другую чаргу тэлецэнтра, каб даць тэлегледачам магчымасць глядзець свае ўласныя перадачы.

Але тут адразу ўзнікла амаль непераадольная цяжкасць. Для тэлевізійнай камеры, якая павінна весці ўласныя перадачы, патрэбна прыёмная трубка, т. зв. іканаскоп. А дзе яго ўзяць? Ды і каштуе ён нямала — 4 500 руб.

На дапамогу радыёаматарам зноў прышоў горсовет. На абсталяванне тэлецэнтра было адпушчана 25 тысяч рублёў.

Гамельчане звязаліся з Кіеўскім тэлецэнтрам і знайшлі там іканаскоп.

Калі ўся апаратура была гатова, выявілася, што трэба яшчэ вузкаплёначны кінаапарат. Без яго нельга трансліраваць кінофільмы. І нават калі апарат быў набыты, зноў паявілася перашкода: неабходна было падабраць для перадач спецыяльныя аб'ектывы і прымусіць кінаапарат працаваць сінхронна з тэлевізійнай камерай.

Але настойлівасць радыёаматараў перамагла ўсе цяжкасці. Напярэдадні кастрычніцкіх свят у эфір быў перададзены першы мастацкі фільм «Максім Перапяліца».

Цяпер па вечарах роўна ў 7 гадзін, шматлікія гледачы Гомеля і недалёкіх ад яго сёл — у радыусе 15 км — з задавальненнем чытаюць на экранах сваіх тэлевізараў надпіс: «Гомельскі аматарскі тэлевізійны цэнтр. Пачынаецца перадача»...

Здавалася-б, тут ужо і клопатам канец. Але-ж не, такая ўжо нястрымная натура ў гомельскіх радыёаматараў, што яны складаюць новыя планы сваёй далейшай работы. У гэтых планах — новыя заманлівыя перспектывы: мантаж яшчэ адной тэлевізійнай камеры для арганізацыі студыйных перадач, вопыты па прыёму Мінскага тэлецэнтра.

Г. РАЗІНСКІ.

г. Гомель.

Прыемна паглядзець новы кінофільм па тэлевізару.





Зоатэхнік Аляксандр Верамей з жывёлаводамі ў бібліятэцы.

# КОМСАМОЛЬЦЫ—ГАСПАДАРЫ ФЕРМЫ

Неяк раніцой да Любы Кунавіч завітала яе сяброўка Людміла Аўласовіч. Прывітаўшыся, яна прысела на лаўку і, зірнуўшы на кніжку, запытала:

— Усё чытаеш?

Замест адказу Люба сказала:

— А ведаеш, Люда, я думаю пайсці працаваць на ферму.

— Я ўжо гаварыла з Валодзем, з комсоргам нашым, — заўважыла Людміла, — абяцаў, што падтрымае нашу просьбу, пагаворыць са старшынёй.

— Мы самі ў кантору сходзім, — прапанавала Людміла. — Так і скажам старшыні: пашліце нас, Адольф Іосіфавіч, працаваць на ферму.

Калі дзяўчаты прыйшлі са сваёй прапановай да старшыні, ён завагаўся.

— Надумалі вы, дзяўчаты, добрую справу, але ці справіцеся? Праца на ферме цяжкая...

— Яшчэ як справімся! — горача сказала Люба. — Мы не спалохаемся ніякіх цяжкасцей.

І сапраўды, дзяўчаты не спалохаліся цяжкасцей. Закасаўшы рукавы, узяліся за справу. Перш за ўсё ачысцілі ад гразі карыты, падлогу ў станкоў, праходы ў свінарніку, ачысцілі і пабялілі станкі, змянілі падсцілі, прывялі ў парадак кормакухню.

Але гэта быў толькі пачатак. Дзяўчат чакала новае выпрабаванне. Нехапала посуду для раздачы кармоў, парушаўся рацыён кармлення.

— Так далей нельга! — рашуча заявілі дзяўчаты зоатэхніку.

Зоатэхнік нешта хацеў сказаць, але Людміла апярэдзіла:

— Не забудзьце і вучобу арганізаваць.

У гэты-ж дзень жывёла была пастаўлена па групах, на відным месцы быў вывешаны распарадак дня.

Неўзабаве дзяўчатам прыйшла падмога: працаваць на свінаферме далі згоду комсамолкі Алена Рагач, Ніна Рагач і іншыя дзяўчаты. Весялей стала працаваць.

На свінаферме ўсе пяць даглядчыц — комсамолкі. У 1956 годзе на ферме быў добры прыплод, выгадавалі выдатных парасят і адкармілі кожная па 30—40 свіней.

Улетку дзяўчаты пабывалі на ўзорнай свінаферме эксперыментальнай базы «Любань», вывучылі перадавы вопыт догляду жывёлы і ўсё, што прыкмецілі лепшае, імкнуцца выкарыстаць у сваёй штодзённай працы: яны арганізавалі круглагадавы адкорм свіней, па-новаму склалі кармавыя рацыёны.

Маладыя жывёлаводы калгаса імя Сталіна ўзялі на 1957 год новыя высокія абавязацельствы — адкарміць 150 свіней, атрымаць на сто гектараў ворнай зямлі 26 цэнтнераў свініны, — і за гэта змагаюцца, не шкадуючы сіл і працы.

І. ЛЫСОЎ.

Вілейскі раён Маладзечанскай вобласці.

# КОЛЬКІ ВАЖЫЦЬ КРОПКА?

У нашым жыцці цяжка цяпер знайсці такую мясціну, дзе-б людзі не карысталіся вымяральнымі прыборамі. У магазінах, напрыклад, калі вы купляеце хлеб, прадавец узважвае вам яго на вагах, тканіну на касцюм адмерваюць метрам. У кватэрах выдаткаванне электраэнергіі фіксуе лічыльнік, спідометры паказваюць пройдзены аўтамабілем шлях, сіноптыкі з дапамогай прыбораў прадказваюць надвор'е і г. д.

Усе гэтыя прыборы маюць спецыяльнае кляймо альбо пломбу, якія гарантуюць іх дакладнасць. Праз пэўны адрэзак часу ўся вымяральная тэхніка праходзіць праверку. Толькі пасля здачы лабараторных «экзаменаў» на дакладнасць прыборы зноў паступаюць у штодзённае карыстанне. Кантроль за дакладнасцю вымяральнай тэхнікі вядуць дзяржаўныя лабараторыі Камітэта стандартаў, мер і вымяральных прыбораў пры Совеце Міністраў СССР.

...Мы знаходзімся ў Мінскай дзяржаўнай лабараторыі. Яе супрацоўнікі трымаюць цесную сувязь з многімі заводамі, фабрыкамі, навукова-даследчымі інстытутамі, гандлёвымі ўстановамі рэспублікі. Амаль на кожны вымяральны прыбор, якімі карыстаюцца тысячы токараў, электрыкаў, машыністаў паравых машын, у лабараторыях ёсць эталоны. Вось адзін з пакояў, дзе правяраюцца кантрольныя прыборы мер вагі, масы, сыпучасці, трываласці, вадкасці. У пакоі стаіць цішыня. Як высветлілася, тут нават падтрымліваецца спецыяльная тэмпература. Робіцца гэта таму, што ваганне тэмпературы паветра адбіваецца на прыборах.

— Якімі эталонамі вам даводзіцца карыстацца ў практыцы? — пацікавіліся мы ў старшага супрацоўніка лабараторыі Праскоўі Шчарбінюк.

— Самымі рознымі, — адказвае яна. — Найбольш буйныя вагі ў нас сустракаюцца на чыгунцы. На іх можна ўзважваць грузы да 100 тон. Эталонамі для такіх вагаў з'яўляюцца спецыяльныя 20-тонныя платформы. Ёсць у нас і іншыя эталоны. Вось паглядзіце — гэта мікравагі.

Наш позірк спыніўся на невялічкім зашклёным прыборы, які стаяў у дальнім кутку пакоя.

— Калі мы працуем на такіх вагах, — гаворыць далей Праскоўя Шчарбінюк, — мы карыстаемся пінцэтам і сочым за прыборам праз мікраскоп. Вось узяць, напрыклад, такі факт. Калі вы пішаце на паперы, то пасля кожнага сказа аба-

вязкова ставіце кропку. Нашы мікравагі могуць гэта сказаць.

Праскоўя Шчарбінюк узяла кавалачак паперы, крыху меншы за квадратны сантыметр, і паклала яго пінцэтам на адну з талерачак вагаў.

— Ну вось, паперка важыць 4,21 міліграма.

Потым Праскоўя Шчарбінюк паставіла на паперцы звычайную чарнільную кропку і зноў паклала «груз» на талерачку. Пасля нядоўгага назірання за паказаннямі прыбора праз мікраскоп яна адказала:

— Вага кропкі — шэсць сотых міліграма.

Мінскія метэаролагі праводзяць у рэспубліцы вялікую работу. Толькі ў 1956 годзе яны абследавалі ў лабараторыі і на месцах звыш аднаго мільёна розных вымяральных прыбораў. Акрамя гэтага, кантроль за дакладнасцю вымяральнай тэхнікі вядуць абласныя і міжраённыя лабараторыі, якія абсталяваны ў Баранавічах, Бабруйску, Полацку, Пінску, Калінкавічах.

Хутка развіваецца наша айчынная тэхніка. Яе шпаркі рост патрабуе таксама канструявання новых вымяральных прыбораў. Мінскія аўтамабілебудаўнікі рыхтуюцца, напрыклад, да выпуску 40-тонных самазвалаў. Вядома, што існуючымі цяпер гірамі такія машыны ды яшчэ з грузам узважваць будзе нельга. Для гэтых мэт ва Усесаюзным навукова-даследчым інстытуце імя Мендзелеева сканструяваны цыліндрычныя гіры ў 5 тон. Карыстацца імі будуць з дапамогай вежавага крана.

Л. СКІБЕНКА.

# Унук Дзмітрыя Данскога

Александр Неўскі свае здольнасці выдатнага палкаводца ўпершыню праявіў, маючы 20 год ад роду, у знамянальнай Неўскай бітве 15 ліпеня 1240 года. Александр Македонскі атрымаў першую вялікую перамогу ў 22 гады. Вельмі рана праявілі свой талент палкаводцаў Пётр I, Напалеон, Карл XII.

Але ці ведае сусветная гісторыя выпадак, калі-б рашаючую ролю ў зыходзе гіганцкай бітвы, якая мае велізарнае гістарычнае значэнне, адыграў няпоўналетні палкаводзец? Такое пытанне можа ў некаторых чытачоў выклікаць здзіўленне.

— Няўжо такі факт меў месца ў гісторыі?

Так, гісторыя ведае і такі факт. 17-гадовы палкаводзец Юрый Мсціслаўскі, унук Дзмітрыя Данскога, навекі ўпісаў сваё імя ў гераічную гісторыю барацьбы народаў нашай краіны супраць іншаземных прыгнятальнікаў.

15 ліпеня 1410 года паблізу вёсак Грунвальд і Таненберг сустрэліся дзве арміі. У арміі тэўтонскага ордэна можна было сустрэць не толькі нямецкіх дваран-разбойнікаў, але і бандыцкія падонкі рыцарства Францыі, Англіі, Даніі, Нідэрландаў. Каля 85 тысяч закаваных у браню шукальнікаў лёгкага хлеба і прыгод стаяла пад сцягамі магістра тэўтонскага ордэна Ульрыха фон Юнгінгена. Амаль сто гармат выставілі крыжаносцы. А ў абозе на сотнях вазоў ляжалі нядаўна выкаваныя кайданы для тысяч рускіх, украінцаў, беларусаў, палякаў, літоўцаў, чэхаў, якія адважыліся выступіць супраць рыцараў.

Руская народная армія па колькасці пераўзыходзіла армію сваіх праціўнікаў. Але што датычыць узбраення, то тут не магло быць ніякага параўнання. У радах народнай арміі было мала дваран, якія мелі сваіх коней, узбраенне, браню. У цэнтры народнай арміі развяваліся сцягі трох рускіх смаленскіх палкоў і асабісты полк іх камандзіра, мсціслаўскага князя Юрыя. На флангах стаялі украінскія, беларускія, літоўскія, польскія і чэшскія палкі.

Вялікі князь літоўскі Вітаўт камандаваў правым флангам, на якім стаялі ўкраінскія, беларускія і літоўскія палкі. Палякамі на левым фланзе камандавалі спрактыкаваны воін Зандрам з Машковіч. Уперадзе чэхаў стаяў легендарны Ян Жыжка.

Каля поўдня конніца Вітаўта кінулася на рыцараў. Крыжаносцы адкрылі згубны артылерыйскі агонь і рушылі ўперад. Зямля задрыжала ад тупату тысяч коней. Ворагі сышліся ўшчыльную. Мечы, сякеры, дубіны воінаў народнай арміі білі па металічных латах і шлемах рыцараў. Крыжаносцы секлі ўзброеных дубінамі і рагацінамі літоўскіх, беларускіх і украінскіх апалчэнцаў.

Літоўскія палкі, не вытрымаўшы страшэннага націску, пачалі паволна адступаць. Дарэмна Вітаўт заклікаў адступаючых спыніцца. Крыжаносцы, збіўшы з пазіцыі літоўскія палкі, ударылі ў фланг палякам. Левы фланг народнай арміі быў на грані поўнага разгрому. Ужо ўпаў сцяг караля Ягелы. Рыцары, захапіўшы каралеўскі сцяг, урачыста заспявалі свой гімн «Хрыстос уваскрос».

Але яшчэ не быў разгромлены цэнтр пазіцыі народнай арміі. Крыжаносцы азвярэла штурмавалі палкі Юрыя Мсціслаўскага. І было чаго лютаваць «псам-рыцарам». Яны пацяснілі 87 палкоў народнай арміі, а чатыры палкі ў цэнтры не падаліся назад ні на крок.

Вялікі маршал тэўтонскага ордэна фон Валенрод, які кіраваў наступленнем на цэнтр і правы фланг народнай арміі, кінуў на смаленцаў і мсціслаўцаў лепшыя рыцарскія палкі. Бой у гэтым месцы дасягнуў найвышэйшай жорсткасці. Сучаснікі адзначаюць, што кроў даходзіла коням да жыватоў. Калі гэта нават з'яўляецца перавелічэннем, дык кровапралітнасць бітвы усё-ж была страшэннай.

Рыцары імкнуліся ў што-б там ні было забіць князя Юрыя Мсціслаўскага, пакінуць смаленскія палкі і мсціслаўцаў без камандзіра. Але князь бясстрашна біўся ў самай гушчыні бою, не забываючы аддаваць загады.

У гэты час Вітаўт сабраў астаткі сваёй арміі і павярнуў воінаў назад. Там, дзе стаялі насмерць смаленцы і мсціслаўцы, дзе, павольна адыходзячы, змагаліся кіяўляне, навагрудцы, гродзенцы, бязлітасна сцыдзь бою ўсё нарастала.

Удар Вітаўта ў фланг нямецкім рыцарам быў нечаканым для маршала Валенрода. А ў гэты час, убачыўшы конніцу Вітаўта, перайшлі ў наступленне палкі, якія абараняліся. Рыцары кінуліся адступаць. Палякі, атрымаўшы падтрымку, таксама перайшлі ў наступленне.

Магістр фон Юнгінген, бачачы, што страшэнная пагроза навісла над яго хваленай арміяй, сам асабіста павёў у бой усе рэзервы. Ён накіраваўся ў абход правага фланга, імкнучыся разбіць палкі Вітаўта, украінцаў, беларусаў і смаленцаў. Палякі кінулі насустрач магістру ўсе свае рэзервы, імкнучыся дапамагчы сваім братам — усходнім славянам і літоўцам. У гэты час Вітаўт яшчэ раз ударыў па флангу рыцараў.

Зноў разгарэўся бой. Нехта з беларускіх апалчэнцаў, злаўчыўшыся, ударыў магістра фон Юнгінгена рагацінай, з якой хадзяць на мядзведзя. Магістр зваліўся з каня. Крык урачыстасці вырваўся з соцень грудзей народных апалчэнцаў. Шэсць рыцарскіх палкоў на чале са «славутым рыцарам» Вернерам фон Тэцінгенам бясслаўна пабеглі з поля бою. Многія крыжаносцы, якія яшчэ некалькі гадзін назад везлі да поля бою кайданы для народнай арміі, кідаліся на калені і малілі аб літасці.

Не менш сарака тысяч псоў-рыцараў загінула ў гэтай бітве. 15 тысяч крыжаносцаў трапіла ў палон. Тэўтонскаму ордэну быў нанесены знішчальны ўдар. У гэтым велізарнае значэнне Грунвальдскай перамогі.

Сучаснікі і ўсе гісторыкі адзначаюць бяспрыкладную стойкасць смаленскіх палкоў, мсціслаўскага князя Юрыя Лінгвеньевіча і воінаў яго палка.

Але амаль ніхто з гісторыкаў не гаворыць аб тым, што Юрыю Мсціслаўскаму ў 1410 годзе было ўсяго 16 год. Дачка Дзмітрыя Данскога Марыя стала жонкай мсціслаўскага князя Лінгвенія Альгердавіча ў 1394 годзе. Мяркуюць, што ў тымжа годзе нарадзіўся Юрый. Бабуляй Юрыя па бацькоўскай лініі была Марыя Віцебская, а дзедам — літоўскі князь Альгерд. Такім чынам, у жылах Юрыя Мсціслаўскага цякла кроў трох народаў: рускага, беларускага і літоўскага.

Час смерці Юрыя Мсціслаўскага невядомы, але вядома, што яшчэ ў 1453 годзе ён быў у Мсціслаўлі і аказаў значную падтрымку тым, хто змагаўся супраць польскашляхецкай агрэсіі.

М. МЕЛЬНІКАЎ.

гг. Крычаў — Мсціслаўль.

## У ВЕНГРЫІ СЁННЯ

Міжнародная рэакцыя, арганізоўваючы контррэвалюцыйны мяцеж у Венгрыі, не ўлічыла таго, што народ, які заваяваў свабоду, непераможны. Гэта асабліва добра відаць зараз.

Дыверсанты, забойцы, крымінальныя злачынцы і шпіёны, пацярпеўшы поўны крах, пастараліся разбурыць як мага больш жылых дамоў, фабрык, заводаў, шахт і руднікоў. Яны спадзяваліся, што ў народа апусцяцца рукі.

Не, венгерскі народ не разгубіўся. Ён дружна аднаўляе сваю гаспадарку. Ужо адноўлены жыллёвы фонд, фабрыкі і заводы працуюць на поўную магутнасць. Венгерскі народ поўнасцю падтрымлівае палітыку сваёй партыі і ўрада. Цяпер, як ніколі, кожнаму відаць, што венгерскі народ не падтрымліваў рэакцыю. Яму дарагі сацыялістычны лад.

На здымках: У Будапешце. Жыццё наладжана.








**ПАД РЭДАКЦЫЯЙ МАЙСТРА СПОРТУ А. СУЭЦІНА**

## Барацьба за сусветнае першынство па шахматах

**Да матча Батвіннік — Смыслоў**

Першага сакавіка гэтага года ў канцэртнай зале імя Чайкоўскага ў Маскве адбудзецца адкрыццё самага знамянальнага шахматнага спаборніцтва за апошнія тры гады — матча на першынство свету паміж совецкімі гросмайстрамі чэмпіёнам свету М. Батвіннікам і прэтэндэнтам на гэтае званне В. Смысловым.

Барацьба за сусветнае шахматнае першынство мае вельмі значную і працяглую гісторыю. Доўгі час гэтае званне было неафіцыйным, хоць матчы мацнейшых шахматыстаў свету вядуць свой пачатак яшчэ з XV стагоддзя. Вядомы напружаныя паядынкі паміж шахматыстамі эпохі Адраджэння Леанарда дэ Курці і Паола Баі; пазней паміж буйнейшымі шахматыстамі XVIII стагоддзя французам Ля-Бурданэ і англічанінам Мак-Данелем.

На працягу даволі значнага часу агульнапрызнанымі, хоць і неафіцыйнымі чэмпіёнамі свету былі ў XVIII стагоддзі француз Філідор (адначасова выдатны музыкант і кампазітар), у XIX стагоддзі немец Адольф Андэрсен. Асабліва яркай фігурай трэба лічыць амерыканца Паўля Марфі, які жыў у мінулым стагоддзі. Як метэор, прамільгнуў ён у гісторыі шахматаў, перамагаючы ўсіх сваіх праціўнікаў да адзінага. Душэўная хвароба і цяжкія ўмовы жыцця шахматнага прафесіянала, нажаль, вельмі рана спынілі творчы шлях гэтага геніяльнага шахматыста. Непераможаным сыйшоў ён з шахматнай арэны, і неафіцыйным чэмпіёнам свету зноў стаў яго сучаснік А. Андэрсен.

Потым Андэрсен быў пераможаны немцам В. Стэйніцам, стваральнікам школы тэорыі шахматаў. Стэйніц на працягу 28 год заставаўся чэмпіёнам, але званне чэмпіёна свету было яму прысуджана не пасля перамогі над Андэрсенам, а некалькі пазней, у 1886 годзе, пасля перамогі над буйнейшым гросмайстрам таго часу немцам Г. Цукертортам.

З гэтага часу пачало афіцыйна і рэгулярна разыгрывацца званне чэмпіёна свету па шахматах, пры гэтым форма спаборніцтва па традыцыі засталася матчавай.

Шмат цяжкіх і складаных паядынкаў прышлося вытрымаць В. Стэйніцу. Але найбольш цяжкім быў для яго, відаць, матч, які адбываўся ў далёкай Гаване, з геніяльным рускім шахматыстам-самародкам М. І. Чыгорыным ў 1892 годзе. Абодва шахматысты былі ў той час у росквіце сваіх творчых сіл. Матч праходзіў з пераменным поспехам. Але ў момант, калі перамога пачала пераходзіць на бок М. І. Чыгорына, ён у рашаючай партыі дапусціў ужо ў выйгрышнай пазіцыі велізарны прагляд і незаслужана панёс паражэнне. Пераматчы Стэйніца ўдалося значна пазней (калі ён быў далёкі ад лепшай формы) яго вучню немцу Эмануілу Ласкеру, які таксама на доўгія гады зрабіўся чэмпіёнам свету.

Толькі праз 27 год змяніўся чэмпіён свету. Ім стаў кубінец Хозе Рауль Капабланка, пра здольнасці якога як шахматыста да гэтага часу складаюцца легенды, праўда, амаль блізкія да сапраўднасці. Капабланку называлі беспамылковым «шахматным аўтаматам». Здавалася, што перамагчы яго немагчыма. З «сухім» лікам (+4,—0,=10) перамог ён у 1921 годзе Ласкера і з гэтага часу на працягу некалькіх год не сказаў ні разу, ні ў адной ігры знагата нават мацнейшым шахматыстам свету слова — «здаюся».

Таму вельмі сенсацыйным было яго паражэнне ў 1927 годзе ў сапраўды «эпічным» паядынку з 34 партый з рускім гросмайстрам А. А. Алёхіным. Алёхін выйграў 6 партый, 3 прайграў пры 25 нічыйных і зрабіўся першым рускім чэмпіёнам свету па шахматах. Алёхін рашуча абвергнуў легенду аб Капабланку як «шахматным аўтамаце» і сваёй творчасцю адкрыў перад шахматыстамі новыя бязмежныя перспектывы. Былі ў Алёхіна і зрывы. Так у 1935 годзе ён, па яго выразу, «пазычыў» на два гады званне чэмпіёна свету галандцу М. Эйве. Але яго шахматны шлях наогул быў надзвычай бліскучы. У 1946 годзе Алёхін зусім нечакана памёр, і званне чэмпіёна свету некаторы час нікому не належала.

Міжнародная шахматная федэрацыя (ФІДЭ) вырашыла разыграць гэтае званне ў «турніры мацнейшых» 5 гросмайстраў. У 1948 годзе спаборніцтва адбылося, і заканамерную перамогу атрымаў совецкі гросмайстар М. Батвіннік, які зрабіўся першым совецкім чэмпіёнам свету. Перамога М. Батвінніка — перамога перадавой совецкай шахматнай школы, якая дасягнула не бывалага росквіту ў наш час.

Двойчы ўжо адстойваў М. Батвіннік сваё пачэснае званне. Кожны раз (па ўмовах ФІДЭ) з інтэрвалам у 3 гады. Абодва разы яго партнёрамі былі совецкія гросмайстры, заслужаныя прэтэндэнты на гэтае званне — у 1951 годзе Д. Бранштэйн, у 1954 годзе В. Смыслоў. Абодва матчы складаліся з 24 партый і абодва заканчваліся з лікам 12 : 12, што сведчыць аб выключна роўнай і ўпартай барацьбе.

Па ўмовах розыгрышу нічыйны вынік захоўвае званне чэмпіёна свету за ранейшым уладальнікам яго. Так два разы гэтае званне засталося за Батвіннікам, і ён вось ужо 9 год заслужана носіць яго.

У трэці раз трэба будзе абараняць М. Батвінніку гэтае званне ў вельмі цяжкім паядынку, які будзе працягвацца каля двух месяцаў у сакавіку — красавіку 1957 года. Перад матчам і Батвіннік і Смыслоў правялі працяглую падрыхтоўку з дапамогай сваіх трэнераў-секундантаў. Секундант Батвінніка — Ю. Авербах, секундант Смыслова — ленінградскі гросмайстар І. Бандарэўскі.

Цяжка зрабіць якія-небудзь прагнозы, адно вядома і цяпер — матч Батвіннік — Смыслоў будзе паядынкам дастойных праціўнікаў: абодва шахматысты цяпер у росквіце творчых сіл. Партыі матча дадуць цудоўны вучэбны матэрыял і, бясспрэчна, узбагацяць скарбніцу шахматнага майстэрства.

Шмат разоў сустракаліся Батвіннік і Смыслоў за шахматнай дошкай. Апошні раз яны ігралі разам у турніры памяці Алёхіна, дзе падзялілі першае і другое месцы. Іх апошняя сустрэча праходзіла вельмі напружана, і пасля 39 ходу белых, якімі іграў Смыслоў, прыйшла да наступнай пазіцыі:

**Батвіннік. Смыслоў.**



У чорных лішняя пешка, але пагрозы белых па 8-й гарызанталі вельмі небяспечныя. Батвіннік прымае правільнае рашэнне — вярнуць пешку назад.

39. ...Лс8 (І пры 39. ...Фс6, 40. Ch6 Лf7, 41. Лd8 або 39. ...Л7b5, 40. Ch6 Лс8, 41. Л : с8 Ф : с8, 42. С : f8, Ф : f8, 43. Лс1 чорныя не мелі планаў на выйгрыш), 40. Л : с8 Ф : с8, 41. Л : d5 Се7! (Небяспечна 41. ...Лd7 з-за 42. Фd4). 42. h3 Фс3, 43. Фе2 Фс6, 44. Ла5 Лd7. 45. Фс4 Ф : с4. 46. bc — і нічыя.

## МОДЫ

1. Жаночы шарсцяны касцюм строгай формы. Спадніца з адной складкай. Рукаў устаўны. На жакеце па бёдрах закладзена папярэчная складка. Невялікі стаячы каўнерык — футравы. Размеры — 44—50.

2. Сукенка з шарсцяной тканіны для дзяўчынкі-падлетка. Спадніца закладзена бантовымі складкамі. Рукаў устаўны.
Размеры 40—44.

3. Прыгожае жаночае дэмісезоннае паліто свабоднага крою з драпу. Фігурныя рэльефы і праразныя кішэні заканчваюцца трохвугольнікамі, вышытымі шоўкам. Устаўная грудка футравая.
Рэкамендуюцца размеры 44—52.

4. Жаночая шаўковая сукенка з тканіны «эфект». Строгая па форме, адразная. Блуза з цэльнакроеным рукавом. На спадніцы адна складка на спіцы. Баскі і каўнерык упрыгожаны махрой з шаўковай тканіны.
Размеры 44—52.

## КРАСВОРД

Склаў Л. Іваноў

**Кожнае слова пачынаецца з літары «П»**

**Па гарызанталі:** 5. Рачное судно. 7. Вядомы дзекабрыст. 8. Драма К. Крапівы. 11. Скрутак. 14. Школьны інвентар. 15. Воскападобнае рэчыва. 16. Пісьменнік. 17. Паэма А. С. Пушкіна. 20. Прылада хатняга ўжытку. 22. Невысокае пласкагор'е. 23. Энтузіязм. 26. Найбліжэйшая кропка па арбіце да Сонца. 27. Здымак з негатыва. 28. Адрэзак чыгуначнага шляху.

**Па вертыкалі:** 1. Гатунак скуры. 2. Дыван. 3. Вершаваны твор для спеваў. 4. Нябеснае цела. 6. Дадатковы матэрыял. 9. Унутраны слой некаторых ракавін. 10. Сумка для патронаў. 12. Становішча, размяшчэнне. 13. Грэчаскі матэматык. 14. Стрэльбішча. 19. Глеба, узараная на глыбіню 40—80 см. 21. Грамафон без рупара. 24. Шрыфт. 25. Атрад.



**Да нумару прыкладаецца бясплатны дадатак часопіса «У дапамогу політэхнічнаму навучанню».** У дадатку да наступнага нумару будуць змешчаны парады аб тым, як падрыхтаваць фестывальныя касцюмы, а таксама ўзоры для вышыўкі і ўзоры для выпальвання.

**Рэдактар Аляксей КУЛАКОЎСКІ**

**Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА, Дзмітры БАЛЬШОЎ, Янка БРЫЛЬ, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК, Георгі ШЧАРБАТАЎ (намеснік рэдактара).**

**«Молодость».**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.

Афармленне В. Грамыкі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефон 93-854.
Фармат паперы 70×108 1/8. Друк. арк. 4. Вуч.-выд. арк. 7.

Здадзена ў набор 13. 1. 57 г. Падпісана да друку 1.II.57 г.

АТ 02726 Тыраж 20 000 экз. Цана 2 руб. Заказ 32.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна. Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

